*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 21(181) ◈ 25 траўня 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***19 ТРАЎНЯ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ ЗРАБІЎ РАБОЧЫ ВІЗІТ У МАСКВУ.*** *Пасля двухгадзіннай размовы з кіраўніком урада Расіі В. Чарнамырдзіным В. Кебіч падкрэсліў, што «...мэта рабочага візіту ў Маскву складалася з трох галоўных частак: Першая — узгадненне мер па аб'яднанню функцый беларуска-расійскіх мытняў у напрамку рэалізацыі першых дзевяці артыкулаў падпісанага дагавора аб грашовым саюзе дзвюх дзяржаў. Другая заключаецца ў завяршэнні перагавораў па практычнаму зняццю мытных пошлін на тавары дзвюх краін. Трэцяя звязана з далейшай прапрацоўкай практычных дзеянняў двух урадаў па выкананню ўсіх палажэнняў дагавора і паглыбленню працэсу збліжэння эканомік Беларусі і Расіі». Узгадняецца, завяршаецца, прапрацоўваецца... А вынік? І калі гэты дагавор будзе змешчаны ў друку?*

**СТАРШЫНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ С. БАГДАНКЕВІЧ ПРАВЁЎ КАНФЕРЭНЦЫЮ,** на якой сказаў, што дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм фактычна не існуе з прычыны таго, што Нацбанкам не парафіраваны 5-ы ягоны артыкул, па сутнасці найважнейшы. Аб'яднанне грашовых сістэм застаецца па-ранейшаму толькі намерам. Мала таго, як зазначыў С. Багданкевіч, вакол той часткі дагавора, якая павінна была ўвайсці ў сілу з 1 траўня, з расійскага боку вядуцца «гульні»: «Як толькі Расія рашыла адмяніць для нас мытныя зборы, яна тут жа ўвяла акцызы і дадатковыя плацяжы за транспарт — і цана пастаўляемай з Расіі прадукцыі стала блізкай да ранейшай...» Хто ходзіць па магазінах, той бачыць, як дзейнічае падпісаны дагавор.

***ПАД СТАРШЫНСТВАМ МЯЧЭСЛАВА ГРЫБА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.*** *Сярод іншых разгледжана пытанне аб ходзе выканання Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». З дакладам выступіў старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. Ён абгрунтаваў неабходнасць стварэння пры Савеце Міністраў урадавай структуры па забеспячэнню адзінай моўнай палітыкі ў краіне, прыняцця мер па распрацоўцы дзяржаўнымі органамі, падначаленымі ўраду, нарматыўных актаў, накіраваных на выкананне Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Па прапанове М. Грыба вырашана стварыць рабочую камісію на чале з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета І. Бамбізам для падрыхтоўкі пастановы па гэтым пытанні з улікам заўваг і прапаноў, выказаных членамі прэзідыума.*

**У ВІЛЬНІ ПРАЙШЛІ ЎРАЧЫСТАСЦІ З НАГОДЫ 75-Х УГОДКАЎ ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ,** у якіх прынялі ўдзел яе выпускнікі, вучні цяперашняй беларускай школы ў Вільні, госці з Беларусі.

***ВЫЙШАЎ У СВЕТ ПЕРШЫ НУМАР*** *рэгіянальнага гісторыка-культурнага часопіса «Свіцязь» — выдання абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры ў Гродне.*

**ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ НА БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАННІ НА ТРЭЦІ КВАРТАЛ ЗАСТАЛОСЯ ЎСЯГО ТРЫ ТЫДНІ.** Калі Вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», спяшайцеся гэта зрабіць як мага хутчэй. Газета ў кіёскі паступае ў абмежаванай колькасці, і ў дальнейшым сітуацыя, відаць, не зменіцца. Наш індэкс 63865. Кошт падпіскі на месяц: 600 рублёў, на квартал: 1800 рублёў.

# ЗА ВОЛЮ, РОЎНАСЦЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

***24 красавіка ў Канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся ўрачысты сход у гонар 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам нашага земляка з-пад Косава Тадэвуша Касцюшкі. Прысутнічалі паслы Польшчы і Францыі Э. Смулэк і К. Жаліф, міністр культуры і друку РБ А. Бутэвіч, міністр замежных спраў РБ П. Краўчанка, лідэр Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» З. Пазьняк, актывісты БНФ, народныя пісьменнікі Беларусі Р. Барадулін, В. Быкаў, Н. Гілевіч, народныя дэпутаты, дзеячы навукі і культуры, прадстаўнікі працоўных і студэнцкіх калектываў, журналісты.***

Адзначу, што ідэя ўшанавання памяці герояў Вызвольнага паўстання 1794 г. узнікла ў Камісіі па культуры і гісторыі БНФ яшчэ ў мінулым годзе. Летам 1993 г. быў створаны Нацыянальны аргкамітэт па правядзенні святочных мерапрыемстваў, складзена іх праграма. З ліку запланаваных некалькі імпрэз адбылося ў красавіку г. г. Так, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі 15 числа была адкрыта выстава «Прысвячэнне паўстанню 1794 г.». Другая выстава працуе з 28 числа ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. Яна ўзнаўляе гісторыю паўстання на дакументальнай, навуковай і літаратурнай асновах. 16 красавіка ў Доме літаратара СП Беларусі адбылася Міжнародная навуковая акадэмія, на якой быў заслуханы шэраг дакладаў.

Сёлета пачаў працаваць другі аргкамітэт па святкаванні ўгодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г.— урадавы. Прыемна, што яны знайшлі між сабой паразуменне і правялі ўрачысты вечар у Белдзяржфілармоніі разам. Ад імя грамадскага камітэта выступіў вядомы мастак М. Купава, а ад імя ўрадавага — міністр А. Бутэвіч. Даклад на тэму «Вызвольнае паўстанне 1794 г. у Польшчы, на Беларусі і Літве» прачытаў дырэктар Інстытута гісторыі, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі М. Касцюк. Удзельнікаў урачыстасці сардэчна віталі паслы Польшчы і Францыі.

Быў зачытаны ліст ад Часовага Паверанага ЗША ў Беларусі, у якім, у прыватнасці, было сказана: «Дзейнасць Касцюшкі падчас Амерыканскай рэвалюцыі і паўстання 1794 г. паказала яго адданасць справе незалежнасці, усяго таго, што павінна натхняць народы ўсіх вольных краін. Разам з Вамі і ўсімі грамадзянамі нашай краіны схіляю галаву перад яго бессмяротнай памяццю».

Яркі нацыянальны каларыт надалі вечару выступленні нашых артыстаў і музыкаў. Асаблівае ўражанне пакінулі па сабе нумары, прасякнутыя духам мінулай эпохі: маршы, рамансы, гімны, цырымонныя менуэты, паланезы. Гучала музыка канца XVIII стагоддзя, напісаная ўдзельнікамі паўстання Мацеем Радзівілам, Казімірам Агінскім, Клеафасам Агінскім. Майстры сцэны (В. Скарабагатаў, І. Алоўнікаў, К. Цыбульская і інш.) выканалі некалькі іх твораў. Як заключны акорд прагучаў паланез К. Агінскага «Развітанне з Радзімай». У вялікім канцэрце прынялі ўдзел Мінскі духавы аркестр «Няміга» пад кіраўніцтвам А. Берына, Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, Беларускі фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі» пад кіраўніцтвам В. Гаявой, Белару-

(Працяг на стр. 2).

*Рыгор БАРАДУЛІН*

# СКІБА ВОЛІ АРЖАНАЯ

*Любіце хлеў,*
*І заплывайце здорам,*
*Хто моліцца на ўлежнасць*
*ды на ўежнасць.*
*А тых,*
*Каго пячэ галючы сорам,*
*Чакаюць*
*Воля, Роўнасць, Незалежнасць.*

*Хто любіць волю сэрцам*
*апантаным,*
*Таму чужой няволі не бывае.*
*І лязгат кайданоў за акіянам*
*Такі ж сіберны,*
*Як і ў родным краі.*

*На вольнасць у Расіі позірк*
*косы —*
*Ён косіць луг нязломнікаў*
*Касцюшкі,*
*Шматуе беларускія нябёсы*
*Сувораву на ордэнскія стужкі.*

*Дух сыціць*
*Скіба волі аржаная.*
*У роўнасці нязменнае наймення.*
*Над нашай Незалежнасцю*
*Лунае*
*Касцюшкавага*
*меча блаславенне.*



## Душа патрабуе беларускіх песень

*З рэдакцыйнай пошты*

ГЛЫБОКАПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ! Звяртаюся да Вас з прапановай. Каб павялічыць колькасць падпісчыкаў штотыднёвіка, трэба ўвесці ў ім рубрыку «Нашы песні» і друкаваць у ёй ноты, гармонію і словы старадаўніх і сучасных аўтарскіх і папулярных песень. Тым больш, што ў апошні час з'явілася столькі цудоўных патрыятычных і лірычных песень. Памятаю, у сваім юнацтве я выпісваў «Комсомольскую жизнь» толькі з-за адзінай старонкі часопіса, дзе друкаваліся гармонія і словы папулярных песень. Бяры гітару і спявай. Вельмі зручна. І, наколькі ведаю, так рабіла шмат моладзі.

Сучасныя беларускамоўныя песні — гэта ж выдатны сродак у справе беларусізацыі. Ганебна не выкарыстаць такую магчымасць. Ну якія песні зараз спяваць моладзі падчас вандровак, ля вогнішча? Няўжо з рэпертуару «Любэ»? Дарагія мае, зразумейце, душа патрабуе беларускіх песень. Сядзець каля радыё з алоўкам — справа няўдзячная. Колькі разоў я спрабаваў запісаць песню «Зіма», якую часта чуў у «Беларускай маладзёжнай», каб выкарыстаць гэтую песню ў якасці калыханкі для сваіх маленькіх сыноў, але так і не паспяваў запісаць. Адным словам, тут трэба Ваша дапамога.

І яшчэ адна заўвага. Хачу нагадаць, што абяцаны ў мінулым годзе вайсковы слоўнік пакуль што ўвасобіўся на старонках «Н. с.» у адным слове — «Зважай». Відаць, на адсутнасць гумару вы не пакутуеце. Гэта прыемна, але ўсё ж...

На заканчэнне, калі ўжо ўзяўся за пяро, хачу адзначыць, што, нягледзячы на складанасці, Ваш штотыднёвік здолеў шмат зрабіць і за кароткі час, літаральна на вачах, ператварыўся ў добрае выданне, за якое не соромна. Дзякую Вам за гэта.

**З найлепшымі пажаданнямі сябар Пінскай суполкі ТБМ В. САВІЧ.**

*У газетах*

## «Беларусь — мая маці і мова»

*Пад такой назвай Таццяна Старасценка, асістэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, змясціла ў «Настаўніцкай газеце» (9 красавіка г. г.) падборку выказванняў студэнтаў-першакурснікаў прыродазнаўчага факультэта сваёй ВНУ, якія характарызуюць іх стаўленне да роднага слова.*

*Вось найбольш цікавыя думкі некаторых студэнтаў.*

**Ала Верабей** прыйшла да высновы, што мала знойдзецца на свеце народаў з такім трагічным лёсам, як беларусы. «Нам адмаўлялася, — падкрэслівае яна, — ужываць родную мову, нас апалячвалі і русіфікавалі, падзялялі рэлігіямі, дзяржаўнымі межамі... Дык чаму ж мы саромеемся размаўляць на роднай мове?»

**Таццяна Суднік** ставіць пытанне: «Калі ж мы ўсе... зразумеем: без беларускага слова Беларусі няма і не можа быць?» Студэнтка лічыць, што, каб роднае слова свабодна і натуральна загучала літаральна ва ўсіх сферах, трэба людзям найперш адчуць сябе грамадзянамі, зацікаўленымі ў падтрымцы самабытнасці беларускага стылю жыцця.

**Таццяна Керашэнка** упэўнена, што Радзіма для чалавека — гэта перш за ўсё мова, якая, нібы матуля, бароніць ад усіх бед і няшчасцяў, ахінаючы гучнымі, прыгожымі, пявучымі словамі.

**Наталля Бабічава** адзначыла, што наша родная мова — гэта мова Скарыны і Буднага, Багдановіча і Купалы, Багушэвіча і Коласа... Дык чаму ж мы сталі рускамоўным насельніцтвам, страціўшы сваю спадчыну — родную мову?

Як бачым, сярод нашай моладзі ёсць нямала асоб нацыянальна свядомых, якім, падкрэслім, належыць будучыня.

**М. В.**

## Чытаюць «Наша слова» ў Савецкім раёне Менска

Пашырэнне ўжытку роднай мовы ўшчыльную звязана з масавасцю беларускай перыёдыкі. Гэта цудоўна ўсведамляюць актывісты раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны Савецкага раёна беларускай сталіцы (узначальвае раду народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў).

— Ужо традыцыяй стала ў нас,— расказвае Уладзімір Цярохін,— праводзіць за кошт сяброўскіх складак, а таксама на грошы арганізацый, спонсараў падпіску беларускіх выданняў для школ і іншых навучальных устаноў Савецкага раёна.

Вось і ў другім квартале сябры ТБМ афармілі падпіску больш як на 600 экземпляраў газет і часопісаў. Перш чым правесці гэтую акцыю, яе арганізатары і выканаўцы тэлефанавалі ў розныя школы з мэтай даведацца, якія выданні ў першую чаргу цікавяць юных чытачоў. Высветлілася, што з часопісаў школьнікі вылучаюць такія выданні, як «Спадчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Беларуская мінуўшчына». Больш стала ахвотнікаў і да газеты «Наша слова».

Чаму б прыклад менскіх рупліўцаў адраджэння роднай мовы не ўзяць на ўзбраенне ўсім суполкам ТБМ імя Ф. Скарыны? І асабліва ў сельскіх раёнах Беларусі. Можа і там знойдуцца спонсары ў арганізацыі падпіскі на беларускія выданні.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# ЗА ВОЛЮ, РОЎНАСЦЬ,

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

скі ансамбль народнай музыкі «Вяселле» пад кіраўніцтвам В. Людчыка, капэла «Агмень» пад кіраўніцтвам спадароў Рашчынскіх, ансамбль саліcтаў «Класік-авангард» пад кіраўніцтвам У. Байдава і некаторыя іншыя. Вечар вялі Л. Генько і А. Лабут.



Выступае пасол Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Э. Смулэк.

**З выступлення міністра культуры і друку А. Бутэвіча:**

— Дарагія сябры! Мы сёння сабраліся ў гэтай зале, каб урачыста адзначыць 200-я ўгодкі з дня Вызвольнага паўстання. Гэты час — час звяртання да гісторыі, на мой погляд, павінен з'яўляцца для ўсіх нас, беларусаў, часам не толькі ўзвышэння нашага духу, але і часам з'яднання нацыі, часам згуртавання народа на вялікія справы. Рознабаковая адораны чалавек, палітычны і ваенны дзеяч, выдатны палкаводзец, актыўны арганізатар барацьбы за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г., слаўны сын беларускай зямлі, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі — гэта толькі частка тых азначэнняў, якія можна і патрэбна дастасоўваць да асобы Тадэвуша Касцюшкі, таго самага Касцюшкі, які амаль 250 гадоў таму нарадзіўся ў фальварку Марачоўшчына, што каля Косава, і стаў сусветна вядомым змагаром за незалежнасць. Касцюшка, які не толькі дасканала валодаў ваеннай справай, але і вучыўся ў Парыжскай акадэміі жывапісу і скульптуры, быў высокаадукаваным чалавекам свайго часу. Сёння асоба гэтага выдатнага чалавека згадваецца ва ўсіх яе таленавітых праявах, але найперш у якасці кіраўніка Вызвольнага паўстання 1794 г. Бо гэта — наша гісторыя, і ведаць яе мы павінны дасканала, аб'ектыўна ацэньваючы факты, з'явы, падзеі. Калі з гэтай высновы зірнём на асобу Касцюшкі, дык зразумеем, што яго жыццёвы прыклад паказвае, што можна самааддана любіць сваю Бацькаўшчыну, шмат зрабіць дзеля яе лепшай долі, але без шкоды для людзей іншых нацыянальнасцей, без абразы іншых краін і народаў. Гэта асабліва важна для нас сёння, калі мы будуем незалежную, вольную Беларусь, калі нароўні імкнёмся ў сусветную супольнасць. Мы павінны ведаць сваю гісторыю, каб заняць свой пачэсны пасад між народамі. Мы павінны праўдзіва і аб'ектыўна ацэньваць гістарычныя падзеі, каб не ствараць напружанасць не толькі паміж блізкімі суседзямі, але і не здавацца пустымі рэфарматарамі ў далёкім свеце. Зрэшты, да гэтага імкнуўся і Тадэвуш Касцюшка. Наша супольнасць у далёкай гісторыі пры яе сённяшнім прачытанні можа нам або дапамагчы ва ўстанаўленні суверэннай незалежнасці Беларусі і паяднанні народаў у вялікай ідэі, або, не дай Бог, пасеяць зерні непаразумення і нацыянальнай нязгоды. Дык няхай засцерагаюць нас ад гэтага вялікія, выдатныя постаці нашай гісторыі, сярод якіх і постаць Тадэвуша Касцюшкі, чыім імем названы горад у ЗША, помнікі якому ўстаноўлены ў многіх гарадах свету. Тое, што Беларусь у гэтыя дні ўшаноўвае памяць Вызвольнага паўстання 1794 г., сведчыць пра імкненне ведаць пра сябе ўсё, не быць Іванам без роду і племені. Справы ўдзельнікаў і кіраўнікоў паўстання будуць дастойна ўшанаваны і ўвекавечаны на нашай зямлі ў помніках, мемарыяльных дошках і іншых памятных знаках. А тое, што ў нашых сённяшніх мерапрыемствах



Выступае пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь К. Жаліф.

прымаюць удзел прадстаўнікі замежных краін, дыпламатычных корпусаў, сведчыць, што асоба Тадэвуша Касцюшкі практычна належыць сусветнай гісторыі, што адданасць і самааддансць натхняюць народы ўсіх вольных краін.

**З выступлення М. Купавы:**

— Паважанае спадарства, паважаныя госці, шаноўны народ дзяржавы Беларусі! У 1794 г. наш беларускі народ, каторы так любяць называць талерантным, паказаў сябе яшчэ і з другога боку, а менавіта, што гэта народ-рыцар, які не скарыўся і не зміры́ўся з акупацыяй сваёй дзяржавы. У 1793 г. агрэсіўная ўсходняя дзяржава, якая вяла стагоддзямі вайну за знішчэнне Вялікага Княства Літоўскага — нашай з вамі Бацькаўшчыны,— зрабіла рашучыя крокі па яе ліквідацыі. У 1794 г. беларускі народ праявіў яркую волю да незалежнасці, і паўстанне стала яркай старонкай у нашай гісторыі. На жаль, сёння мы з вамі перажываем вельмі падобную на 1793—1794 гг. сітуацыю, калі кіраўнікі дзяржавы імкнуцца здаць нашу незалежнасць усходняй краіне, ідучы нават на парушэнне Канстытуцыі. Спадзяюся, што неўзабаве народ Беларусі скажа рашучае «не» ганебным спробам ператварыць сваю Радзіму ў калонію. Святкуючы гэтую выдатную дату ў нашай гісторыі, мы не забываем пра вялікія ахвяры, якія паклаў беларускі народ на алтар Незалежнасці... Ушаноўваючы памяць усіх змагароў за незалежнасць Бацькаўшчыны, мы павінны прыгадаць разам з Тадэвушам Касцюшкам і яго паплечнікаў — Якуба Ясінскага, Тамаша Ваўжэцкага, Караля Серакоўскага, змагароў за нашу незалежнасць у сівую мінуўшчыну: Усяслава Полацкага, Канстанціна Астрожскага, Юрыя Радзівіла, Міколу Радзівіла Чорнага, Міколу Радзівіла Рудога, змагароў за Беларускую Народную Рэспубліку, герояў Слуцкага збройнага чыну.

**З выступлення пасла Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Э. Смулэк:**

— Пасольства Рэспублікі Польшча з радасцю і пашанай прысутнічае на сённяшняй урачыстасці з нагоды 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г., якое ўвайшло ў гісторыю як Касцюшкаўскае паўстанне. Вітаем і віншуем арганізатараў і ўдзельнікаў вечара. Сённяшняе святкаванне сведчыць, што наш сусед — суверэнная Беларусь — звяртаецца да сваіх гістарычных каранёў, калі яна супольна з палякамі і літоўцамі вяла барацьбу за незалежнасць Рэчы Паспалітай абодвух народаў, гэта значыць канфедэрацыю Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Частку зямель, якія ўваходзілі ў Рэч Паспалітую, забралі ў яе ў 1772 годзе Аўстрыя, Прусія і Расія, а далей падзялілі яе ў 1793-м Прусія з Расіяй. Паўстанне, угодкі якога святкуем, пачалося амаль адначасова ў Кракаве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе кіраваў ім Якуб Ясінскі. Нягледзячы на вялікую мілітарыстычную перавагу Расіі і Прусіі, паўстанне трывала больш за паўгода і заняло амаль усю Польшчу, Літву з Жамойціяй, а з зямляў сённяшняй Беларусі — Гродзеншчыну, Брэстчыну і Меншчыну. Паўстанне было крывава задушана пры выдатным удзеле войска Суворава, а ў 1795 годзе наступіў канчатковы падзел Рэчы Паспалітай, у тым ліку і зямляў Беларусі. Але патрэба вызвольнай барацьбы засталася, аб чым сведчаць паўстанні ў лістападзе 1830 і ў студзені 1863 гадоў. У гісторыі Польшчы Тадэвуш Касцюшка, ураджэнец Марачоўшчыны каля Косава, стаў сімвалам польскага вызвольнага дзеяння. У нацыянальнай самасвядомасці замацаваўся першы кіраўнік паўстання, які здолеў паказаць, што барацьба са зброяй у руках з'яўляецца адзіным шляхам да адбудовы страчанай дзяржавы і змыцця ганьбы раздзелаў Рэчы Паспалітай. Аднachасова праслаўляе яго на радзіме па-

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

літычна-дэмакратычная праграма, якую ён выказаў напярэдадні паўстання: «За адну шляхту змагацца не буду, хачу волі для ўсяго народа і толькі дзеля яе ахвярую сваім жыццём»... У Польшчы захавалася ўдзячная памяць аб Касцюшку. Угодкі святкуюцца шматлікімі выставамі, між іншым, у каралеўскім замку і ў палацы Рэчы Паспалітай у Варшаве, навуковымі сесіямі і прэзентацыяй новых выданняў, прысвечаных паўстанню. Хачу заверыць прысутных аб супольным святкаванні Вызвольнага паўстання ў Беларусі.

**З выступлення пасла Францыі ў Рэспубліцы Беларусь К. Жаліфа:**

— Паны міністры, пані пасол Польшчы, дамы і панове! 26 жніўня 1792 года Тадэвушу Касцюшку было нададзена званне ганаровага грамадзяніна Французскай рэспублікі. То быў важны момант у гісторыі нашай дзяржавы, бо на пачатку жніўня была скінута манархія... Для Касцюшкі гэты ўрок гісторыі не пройдзе незаўважаным. Касцюшка быў вядомым у Францыі чалавекам. Тут ён пражыў пяць гадоў: быў студэнтам вайсковай акадэміі ў Версалі, займаўся ў школе артылерыі ў французскім Брэсце, дзе авалодаў фартыфікацыйным майстэрствам, якое яму так спатрэбіцца ў час вайны за незалежнасць Амерыкі. Касцюшка таксама правядзе шмат гадоў у Францыі пасля паражэння паўстання, якое ўзначальваў. Натуральна, што паміж ім і Напалеонам І склаліся няпростыя адносіны — гэтыя моцныя людзі не былі створаны дзеля таго, каб ладзіць адзін з адным. Касцюшка, натуральна, аддаваў перавагу сваім суайчыннікам. Сёння час змяніўся, і мара Касцюшкі практычна ажыццявілася... Для нас, французаў, Касцюшка застаецца ўзорам свабоднага і вернага — чаго б гэта ні каштавала — сваім ідэалам чалавека... Дзякую арганізатарам вечара за запрашэнне прыняць у ім удзел. Жадаю вам адраджэння ад сябе асабіста і ад імя французскага народа.

**З выступлення дырэктара Інстытута гісторыі М. Касцюка:**

— Паважаныя ўдзельнікі ўрачыстага сходу! У гісторыі нашай Бацькаўшчыны нямала свядома забытых падзей, з'яў, выкрасленых з народнай памяці выдатных дзеячаў. Цяжка прыгадаць іншы народ, які быў бы так абыдзены ў веданні таго, што адбывалася на яго зямлі, які б так не шанаваў сваіх лепшых прадстаўнікоў. Аднак без аднаўлення гэтых старонак нашага мінулага немагчыма стварыць аб'ектыўную і новую гісторыю, да якой мы імкнёмся, і што проста неабходна цяпер, калі Беларусь аб'яўлена суверэннай незалежнай дзяржавай. Адной з такіх старонак, якой мы вымушаны былі цурацца, з'яўляецца Вызвольнае паўстанне 1794 года ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Яно з'явілася непасрэдным адказам перадавой часткі грамадства на інтэрвенцыю правячых рэжымаў Расіі і Прусіі ў Рэч Паспалітую, у выніку чаго былі ажыццёўлены яе другі падзел. Аднак прычына паўстання больш шырокая: гэта і ўздзеянне Французскай рэвалюцыі канца XVIII ст., і барацьба супраць рэакцыйнага магнацтва, што захапіла ўладу ў Рэчы Паспалітай у выніку Таргавіцкай канфедэрацыі 1792 г., гэта і імкненне да больш справядлівага грамадства на аснове Канстытуцыі 3 мая 1793 г. і рэформ, пачатых Чатырохгадовым соймам. Значыць, паўстанне было не выпадковасцю, а заканамернасцю... Паўстанне было нядрэнна падрыхтавана, яно пачалося на поўдні Польшчы 24 сакавіка 1794 года, калі ў Кракаве быў аб'яўлены Акт паўстання... У ноч на 23 красавіка паўстанне адбылося ў Вільні, яно было ажыццёўлена дзеячамі левага крыла вызваленчага руху. Узнік орган для кіраўніцтва паўстаннем — Найвышэйшая нацыянальная рада Вялікага Княства Літоўскага. Яе пазіцыі вызначаліся большай радыкальнасцю. Калі ў Польшчы лозунг паўстанцаў утрымліваў такія патрабаванні, як «Воля, цэласнасць, незалежнасць!», то ў Літве і Беларусі ён гучаў: «Воля, роўнасць, незалежнасць!». Як бачым, у першым выпадку адрозненне заключалася ў патрабаванні аднаўлення цэласнасці Рэчы Паспалітай, у другім выпадку — у патрабаванні роўнасці сацыяльнай і грамадзянскай, а таксама роўнасці насельніцтва беларускіх і літоўскіх земляў сярод іншых народаў...

Паўстанцы падзялялі расейцаў на прыгнятальнікаў і прыгнечаных. У звароце да расейскіх салдат Найвышэйшая нацыянальная рада ВКЛ заклікала падтрымаць іх, як браты братоў. Паўстанцкія пракламацыі сведчаць пра тое, што іх задачай было не толькі вызваленне роднай зямлі, але і данясенне свабоды нават да берагоў Нявы, вызваленне народаў не толькі Рэчы Паспалітай, але і Расійскай імперыі. Такім чынам, Вызвольнае паўстанне 1794 года не было этнічна антырускім. Сувораў атрымаў за перамогу над гэтым паўстаннем званне фельдмаршала і больш за 13 тысяч прыгонных сялян у Кобрынскім павеце.

Нагадаю, што мерапрыемствы па ўшанаванні памяці Вызвольнага паўстання 1794 г. будуць праводзіцца па ўсёй Беларусі да канца бягучага года.

Ірына КРЭНЬ.




Фота Уладзіміра ПАНАДЫ.

# САЮЗ СЛОЎ–ГЭТА ЦУДОЎНАЯ ТАЯМНІЦА

*(Гутарка з доктарам філалагічных навук Анатолем Сцяпанавічам АКСАМІТАВЫМ)*

**— У мінулым годзе выйшаў «Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Якуба Коласа». Як узнікла ідэя яго стварэння? У прадмове адзначана, што гэта, здаецца, першы ў славянскай фразеалогіі слоўнік аднаго аўтара.**

— Як нярэдка здараецца, новыя ідэі ўзнікаюць незалежна адразу ў некалькіх асобаў. Так прыблізна было і ў гэтым выпадку. Загадчык аддзела сучаснай беларускай мовы і культуры мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі акадэмік М. В. Бірыла шмат гадоў таму распачаў картатэку «Слоўніка мовы твораў Якуба Коласа». У працэсе гэтай працы ў яго і ўзнікла думка аб выданні асобным томам фразеалогіі твораў Якуба Коласа. Гэтая ж думка вабіла і дацэнтаў Белдзяржуніверсітэта Е. С. Мяцельскую і Я. М. Камароўскага, землякоў народнага пісьменніка. Яны адразу адгукнуліся на прапанову М. В. Бірылы. Падумваў і я аб такім слоўніку.

**— З якой мэтай?**

— Каб на яго аснове, а затым суцэльнага распісвання фразеалогіі твораў 10—15 сучасных беларускіх пісьменнікаў, выявіць ядро і перыферыю фразеалагічнага складу сучаснай беларускай літаратурнай мовы. На гэтай аснове можна было б прыступіць да складання розных тыпаў фразеалагічных слоўнікаў. Акадэмік М. В. Бірыла ў 1983 г. прапанаваў мне распрацаваць тэарэтычныя асновы і практычную інструкцыю для стварэння фразеалагічнага слоўніка мовы твораў Коласа. Паколькі ўзораў такога тыпу слоўніка не існавала, прыйшлося пачынаць з нуля. Сярод асноўных праблем, звязаных з паўнатой і дакладнасцю апісання фразеалагічнай адзінкі, былі: лексіка-граматычныя, стылістычныя, гісторыка-часавая яе характарыстыкі, перадыгматычныя адносіны з іншымі фразеалагічнымі адзінкамі. Гэта неабходна было, каб адлюстраваць як семантычную структуру слоўніка, так і мовы ў цэлым, уяўленне аб фразеалогіі як аб сістэме і выяўленне яе шчыльнай сувязі з граматыкай і іншымі бакамі мовы.

**— Карысталіся толькі ўласнымі напрацоўкамі?**

— У вырашэнні гэтых і больш прыватных праблем каштоўныя парады былі атрыманы ад вядомага рускага фразеолага А. І. Малаткова. Так, у слоўніку ў якасці лексіка-граматычнай характарыстыкі фразеалагізма былі ўключаны прапанаваныя Малатковым граматычныя разрады. З цяжкасцямі вырашалася пытанне тлумачэння, або апісання, значэння фразеалагічнай адзінкі і аб'ёму фразеалагічнага складу слоўніка. Першае было звязана з асаблівасцямі ўжывання той ці іншай адзінкі ў залежнасці ад характару кантэксту. Што да аб'ёму фразеалагічнага складу, то гэта пытанне выклікае найбольшыя спрэчкі сярод фразеолагаў.

**— А з боку здаецца, што тут усё даўно набыло кананічную акрэсленасць.**

— Не сказаў бы. Некаторыя лінгвісты прызнаюць толькі ідыёмы (фразеалагічныя зрашчэнні і фразеалагічныя адзінствы) і некаторыя фразеалагічныя злучэнні з жорстка фіксаваным адзінкавым счапленнем кампанентаў (напрыклад, *халодная вайна*). Іншыя ўключаюць у фразеалагічны склад прыказкі, прымаўкі, крылатыя выразы, якія сумяшчаюць прамое і пераасэнсаванае значэнні (вобразную матывіроўку, якая суадносіцца з ацэначнай і суб'ектыўна-эмацыянальнай мадальнасцю). Была аддадзена перавага больш шырокаму разуменню фразеалогіі, бо на прыкладах індывідуальна-аўтарскіх пераўтварэнняў, асабліва прыказак і крылатых выразаў, якіх у мове пісьменніка немалая колькасць, можна больш дакладна ацаніць яго майстэрства, якое праяўляецца ў творчым ужыванні моўных вобразаў.

**— Якія пераўтварэнні маюцца на ўвазе?**

— Звяртае на сябе ўвагу ў творах Якуба Коласа група фразеалагізмаў-сказаў (прыказкі, крылатыя словы, афарызмы), у якіх у выніку аўтарскай апрацоўкі змяняецца адзін або некалькі кампанентаў, пераважна назоўнік, які ў кантэксце твора напаўняецца канкрэтным зместам. Дабіраючы да адпаведнай сітуацыі пэўную форму парэміі, аўтар тым самым выказвае свае адносіны да яе і дае ёй сваю ацэнку. Так, замяняючы кампанент «вецер» словам «смерць» у прыказцы *Хто вецер сее, пажне буру*, аўтар узмацняе адмоўную ацэнку жудасных падзей вайны і непазбежнасць пакарання яе зачыншчыкаў: «Хто сее смерць, той пажне буру» (Дрыгва, т. VII, с. 315). У другім выпадку ў кантэксце прыказкі слова «вецер» змяняецца словамі «зло-няпраўда», а «бура» — словам «ліха»: Бура ўзыходзіць, згіне гэта пыха, Бо хто зло-няпраўду сее, Пажне ліха (Сымон-музыка, т. IV, с. 448). Такім жа чынам абыгрывае Колас біблейскі выраз Не аб адным хлебе жыў будзе чалавек.— Як лепей называюць па-беларуску: чай ці гарбата? — Як ні называеш,— усё будзе добра, абы смачна, адказаў жартам Лабановіч.— Ды не адным чаем жыў будзе чалавек (На ростанях, т. IX, с. 564). Такога ж характару трансфармацыю зведвае прыказка *«Пара касцей не ломіць»*: — Ой, буду п'яны — ашаломіць.— Касцей гарэлка не паломіць! — Крычыць Базыль (Новая зямля, т. VI, с. 45), а таксама пад пяром Коласа, набываючы новы сэнс у пэўнай сітуацыі, выслоўі: курыца не птушка, прапаршчык — не афіцэр (т. X, с. 432), нічога не вечна пад ясным месяцам (т. IX, с. 629), прайсці агонь і ваду і цьму перашкод (т. VIII, с. 336), і шавец, і кравец, і да дзевак маладзец (т. X, с. 37). Фразеалагічныя адзінкі як моўныя тропы з'яўляюцца мастацкавыяўленчымі карцінамі знешняга і ўнутранага жыцця, афарбаванага міфалагічнымі, рэлігійнымі і этычнымі ўяўленнямі розных часоў. Фразеалагічны склад з'яўляецца непасрэдным культурным кампанентам мовы, асяродкам нацыянальнай свядомасці, крыніцай духоўнасці народа. Працэс фразеўтварэння адбываецца несупынна. Тут варта нагадаць словы Гарсія Лоркі: «Што такое паэзія? А вось што: саюз двух слоў, аб якіх ніхто не здагадваўся, што яны могуць спалучацца, і што, спалучыўшыся, яны будуць выражаць новую тайну ўсякі раз, як іх вымаўляць».

**— На Вашу думку, да Коласа літаратурная мова была скавана. Ён пашырыў яе межы і паказаў патэнцыяльныя магчымасці, смела ўвёўшы ў літаратурную фразу прастамоўныя, дыялектныя, фальклорныя, запазычаныя з іншых моў адзінкі, у тым ліку фразеалагізмы гэтых пластоў. Падобнае ў Расіі зрабіў Пушкін.**

— Так, такі падыход да сваёй мовы ў многім дапамог Пушкіну стаць вялікім рускім паэтам, Міцкевічу — вялікім польскім паэтам, а Купалу і Коласу — выдатнымі беларускімі паэтамі. Малюючы народны характар, яны неадвольна распараджаліся агульнанародным моўным вобразным арсеналам, а выражалі ідэалогію і запыты сацыяльнага асяроддзя, чэрпалі з народнага слоўніка і ўводзілі ў літаратурную мову ў першую чаргу тыя словы і выразы, якія ўжо актывізаваліся, набылі ў грамадстве асаблівае гучанне. Так, у Коласа, акрамя нейтральных, размоўных і кніжных, сустракаем прастамоўныя фразеалагізмы, такія як: *малоць лухту, лупіць лыка з каго, разяўляць ляпу, распусціць ляпу, збіцца ў лямец, запусціць ляшча, воўчае мяса, гула асмаленая, несці катла, усунуць чмыз куды, даць лэмбуся і квасу, чэрці дрэнчаць каго.* Шырока выкарыстоўвае ў мове сваіх персанажаў Колас і вылічнікавыя фразеалагізмы, якія з пункту погляду суаднесенасці іх з функцыянальнымі стылямі сучаснай беларускай мовы ў сваёй пераважнай большасці адносяцца да прастамоўных і груба-прастамоўных пластоў і нясуць моцны эмацыянальны напал (*каб ты не дажыў святой нядзелі, каб ты ў чыстым полі рагатаў, каб не меў ты на смерць кашулі, раздзяры тваё пашчэнкі* і шмат інш.). Коласам уводзяцца ў мову твораў паланізмы: *ні на цалю, пане-дзею, мосці дабрадзею пся косць, пся крэў, усходнія крэсы, мудры паляк па шкодзе*) і русізмы (*адстаўной казы барабаншчык, бітая газіна, нападаць у пераплёт, гуляць у бірулькі, казанская сірата*). Ды інакш быць не магло. Даўнія кантакты беларусаў з палякамі і рускімі, сумеснае жыццё ў адной дзяржаве на працягу многіх стагоддзяў, блізкасць лексічных складаў іх моў спрыялі іх моўнаму ўзаемаўзбагачэнню. Тут трэба таксама нагадаць, што запазычанае не заўсёды з'яўляецца фактам пасіўным у адносінах да мовы, якая запазычвае, часта мы маем справу не з «уплывам» чужой мовы, а, як адзначаў Л. П. Якубінскі, «з экспансіяй мовы, якая запазычвае», са своеасаблівым лексічным і фразеалагічным захопам. Яркі прыклад таму — творчасць Адама Міцкевіча, якая нарабіла столькі галасу ў тагачаснай крытыцы з-за таго, што ён смела ўводзіў у свае творы беларускія словы і выразы. «Барацьбіты» за чысціню польскай мовы прадракалі, што яго будуць чытаць і разумець толькі віленскія кухаркі. А што атрымалася?.. Яго творы зрабіліся класічнымі ўзорамі польскай літаратурнай мовы.

**— А ўсё ж ці можна лічыць фразеалогію Коласа сучаснай?**

*(Заканчэнне на 6-й стар.).*

# ПАД ГРЫФАМ «СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО»

Заходняя Беларусь. 1940 год. На парозе — Вялікая Айчынная вайна. А тут пасля «вызваленчага» паходу Чырвонай Арміі ўсё яшчэ ваююць з тымі, каго год назад «вызвалілі». Хапаюць усіх падазроных, саджаюць у турмы нават тых, хто толькі-толькі вызваліўся з польскіх турмаў. Астрогі зноў бітком набіваюцца людзьмі. Здараецца, арыштоўваюць нават за тое, што не так зірнуў на прадстаўніка новай улады, не тое сказаў на кірмашы ці вуліцы. Ці пайшоў, напрыклад, чалавек у краму купіць запалак, а дамоў ужо не вярнуўся, бо трапіў за краты. Звычайна, падкрэслю, без ніякай прычыны. І надоўга ці назусім. Калі арыштаваны здзіўлена пытаўся ў міліцыянера: «За што?», той флегматычна адказваў: «Там разбяруцца». І «разбіраліся».

Перада мною — пракурорская папка з філіяла Менскага абласнога архіва, які знаходзіцца ў Маладзечне. Філіял, дарэчы, цяпер займае будынак былой турмы. І, нібы знарок, судовыя дакументы захоўваюцца ў сутарэннях халодных камер, сцены якіх яшчэ памятаюць кроў і слёзы запакаваных.

Развязваю зашморгнутую вузельчыкам-пятлёю тугую папку, на вокладцы машынапісны надпіс: «Вилейская областная прокуратура БССР, гор. Вилейка. Акты проверки работы судов, тюрем, облпрокуроров по спецделам. Списки лиц, задержанных пограничными отрядами, находящихся в тюрьмах и др. Начато: 20.02.1940 г. Окончено 03.12.1940 г.»

...Наўрад ці сёння хто дакладна ведае, як тады «разбіраліся» з «ворагамі народа». Таму з увагай чытаю пажоўклыя ад часу аркушы, аб'яднаныя грыфам «Совершенно секретно».

7 лістапада 1940 года пракурор Маладзечанскага раёна Гваздовіч, правяраючы гарадскую турму, выявіў, што 5 чалавек тут знаходзяцца нават без пастановы і санкцыі пракурора на арышт. Гваздовіч прапанаваў начальніку турмы Якаўлеву «дать... указание личному составу тюрьмы о том, что по мотивированному постановлению с утверждением... НКВД можно содержать арестованных не более 24 часов, а после требовать постановления на арест с санкцией прокурора или задержанного из-под стражи немедленно освободить».

Дарэчы, гэта адзіны выпадак законных дзеянняў пракурора, які трапіў мне на вочы з усёй таўшчэзнай папкі перапіскі карных устаноў. Але далейшае знаёмства з афіцыйнымі паперамі пераканала: менавіта тая простая ісціна, што абсалютна недапушчальна пасадзіць чалавека за краты без абвінавачвання, ўспрымалася пракурорамі, начальнікамі турмаў і супрацоўнікамі НКУС, як нешта невераголнае.

Вось акт праверкі пракурорамі спецаддзела Вілейскай абласной пракуратуры Айзенштатам і Ампілавым турмы горада Вілейкі ад 15.02.1940 года. Прысутнічалі начальнік 1-га спецаддзела НКУС Вілейскай вобласці Аствацтуран і начальнік турмы Колесаў. Выяўлена наступнае: «Главный корпус тюрьмы состоит из 41 камеры. Лимит установлен на 350 человек, а содержится... 827 человек. Из них: числится за УНКВД 808 человек, за органами милиции — 5, за судами — 6, за прокуратурой — 4, осужденных — 1 человек (!). Содержится без оформления и санкции прокурора, считая с сентября месяца 1939 года, 260 (!) человек, на которых личных дел в канцелярии тюрьмы не имеется. Кроме этого, 326 человек содержится с истекшим сроком содержания под стражей без санкции прокуроров. Выявлено, что гражданин Скуратович Адам Карлович с 28 октября 1939 года содержится и доставлен в тюрьму по телефонному распоряжению бывшего начальника опергруппы НКВД Вилейского уезда тов. Козмана. В 12-ой камере главного корпуса тюрьмы выявлено, что 4 человека содержится под стражей с 20.12.1939 года, они не получали нижнего белья, не проходили санобработку. В женских камерах 30, 32 находятся больные туберкулезом Разднерова Ванда Петровна (арестована 5.11.1939 г.) и Адвинсенчак Анна Валентиновна (арестована 30.12.1939 г.). Тюремный врач Шварц до сего времени не установил диагноз на предмет изолирования. В камерах 30, 32, 37 имеется вшивость. В камере 30 находится заключенная Дроздова Анна Викентьевна, имеющая семимесячную беременность...»

Звярніце ўвагу, што Айзенштат і Ампілаў не зрабілі ніякіх захадаў, каб хоць крыху аблегчыць пакутны лёс вязняў. Яны толькі прапануюць начальніку турмы без санкцый пракурора арыштаваных не прымаць. Але на практыцы такія прапановы не выконваліся, бо вязні часта траплялі сюды з камер папярэдняга зняволення. Адна з іх, напрыклад, знаходзілася ў 83 пагранатрадзе. Згаданы Айзенштат пасля наведання гэтай кутузкі пісаў у сакрэтнай справаздачы пракурору БССР Вятрову і наркому ўнутраных спраў Цанаве: «Арестованные в КПЗ 83 погранотряда содержатся до полутора месяца вместо 10 дней не по вине начальника погранотряда тов. Малыка, а потому, что тюрьмы не принимают арестованных вследствие перегрузки. Нередко бывают случаи, что начальники РО (раённых аддзелаў) НКВД не принимают... дела для дальнейшего следствия, а в результате грубо нарушают сроки ведения следствия, поэтому просьба принять соответствующие меры к разгрузке арестованных в КПЗ 83 погранотряда и урегулировать вопрос в отношении приема следственных дел от погранотряда».

Але вышэйшая ўлада маўчала. Шматлікія скаргі з месц сведчаць аб тым, што тэлеграмы і лісты пад грыфам «Совершенно секретно» пасылаюцца ў нікуды. У Менску яны рэгістраваліся і падшываліся ў стандартныя папкі з тым самым грыфам.

Пракуроры і іх намеснікі фактычна займаліся бязглуздым ліставаннем. Яны ў вочы хлусілі начальнікам турмаў, а тыя — адзін аднаму: «Лично прокурору Вилейской области по спецотделам тов. Айзенштату. Ставлю Вас в известность, что 24 июля с. г. прибыли из Глубокской тюрьмы заключенные в количестве 11 человек по назначению в Вилейскую тюрьму, на которых срок санкций на право содержания под стражей истек. Мною данный контингент з/к/зэкаў/ в тюрьму не принят и направлен в УНКВД Вилейской области для полного оформления личных дел. В результате чего зам. начальника УНКВД Радченко обязался к вечеру оформить личные дела з/к, мотивируя тем, что сейчас оформить личные дела на заключенных невозможно физически. Мною контингент был принят. До сих пор зам. начальника УНКВД тов. Радченко личные дела на з/к не оформил. Довожу до Вашего сведения. Начальник тюрьмы НКВД БССР г. Вилейка Колесов».

А вось і яшчэ адзін дакумент. Ён — узор бюракратычна-злачынных перапіскі пракурора са сваімі паплечнікамі па генацыду, здзеку над беспадстаўна арыштаванымі. Са зместу вынікае, што 28 зняволеных, якіх начальнік райаддзела НКУС у Браславе арыштаваў і трымаў пад вартаю без пастановы і санкцыі пракурора, перакідвалі з адной турмы ў другую. І ў кожнай турме ад іх хацелі як найхутчэй пазбавіцца, бо ніхто не браў на сябе адказнасць іх вызваліць. А пракуроры тым часам між сабою перакідваліся пустымі паперкамі: «Сов. секретно. Прокурору Вилейской области. На основании распоряжения военного прокурора... г. Лида от 23.01.40 г. направлено... производства по делам арестованных на территории Западней Белоруссии по Ашмянскому уезду для дальнейшего наблюдения за следствием. Список на 82 человека прилагается. Пом. военного прокурора Хейфен».

Ад падобнай перапіскі распухла папка. І не адна. Але папкі з судовымі справамі беспадстаўна асуджаных утрымліваюць у сабе ўсяго адзін шматок паперы: пастановы суда аб тэрміне зняволення (5—25 гадоў). Трапіўшы ў берыеўскія астрогі, любы заходнебеларускі жыхар, вельмі часта арыштаваны без санкцыі пракурора, ужо не мог адтуль выблытацца. Здараліся, праўда, і «выключэнні». Так, напрыклад, без віны арыштаваныя і асуджаныя Маладзечанскім «народным» судом Сігізмунд Рэкс і Браніслаў Іванавіч Сяеніцкі не паспелі трапіць у Сібір, бо... памерлі ў турме.

Мікола КАПЫЛОВІЧ

## Польшча — Беларусі



*З траўня ў памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі была адкрыта выстава «Сучасная польская кніга», наладжаная фондам «Дапамога палякам Усходу» сумесна з пасольствам Польшчы і дырэкцыяй Нацыянальнай бібліятэкі. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі беларускага і польскага ўрадаў, пасол Рэспублікі Польшча, кіраўнікі фонду, супрацоўнікі бібліятэкі, журналісты.*

*Выстава прадстаўляе звыш тысячы кніг, выдадзеных у Польшчы ў 1992—1994 гадах, якія пасля закрыцця экспазіцыі будуць перададзены Нацыянальнай бібліятэцы і бібліятэцы БДУ. Яна стала адной з першых акцый нядаўна створанага фонду, мэта якога — культурная дапамога палякам — грамадзянам іншых краін, а таксама супрацоўніцтва з уладамі гэтых краін дзеля паразумення людзей розных нацый і культур.*

*НА ЗДЫМКУ: выступленне на адкрыцці выставы дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Галіны Алейнік.*

*У. ПАНАДА.*

Замежжа

## «Полацак»

«Першы раз я сустрэўся з Білам Клінтанам у Кліўлендзе 21 жніўня 1992 года ў час ягонай кампаніі на пост прэзідэнта ЗША. Мне пашчасціла не толькі прывітацца з будучым прэзідэнтам і паціснуць яму руку, але пагаварыць з ім і падарыць беларускі сцяжок. Другая сустрэча адбылася ў час візіту Біла Клінтана ў Беларусь, 15 студзеня 1994 года» — так пачынаюцца нататкі Анатоля Белага пра наведванне прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам Рэспублікі Беларусь, якімі і адкрываецца першы нумар «Полацака» за 1994 год.

Часопіс працягвае публікацыю «Тапаграфіі знаходак манет і аздоб», якую зрабіў Міхась Белямук. На гэты раз чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца са знаходкамі, зробленымі ў Гомельскай вобласці.

У рубрыцы «З архіваў КДБ» змешчаны «Сведчанні Аркадзя Смоліча ад 9.VII — 1930 г.», у якіх ён распавядае пра сваю дзейнасць у 1924—1928 гг.

«Савецка-польская вайна, якая пачалася вясной 1919 года, перамяшчэнне фронту на ўсход стварылі новую сітуацыю ў Беларусі. На ход падзей у розных плоскасцях уздзейнічаў і цэлы шэраг іншых фактараў: грамадзянская вайна ў Расеі, у ходзе якой маглі ўзяць верх белыя генералы; палітыка дзяржаў Антанты ў адносінах да Польшчы і яе межаў на ўсходзе; настроенасць сялянства, пазнаўшага ўжо адну замежную акупацыю, а таксама «ваенны камунізм» з яго харчразвёрсткай... Як знаць, можа быць, узнікшае становішча і было адной з важнейшых прычын, што абумовіла публіцыстычную актыўнасць Купалы ў 1919 годзе» — гэта радкі з артыкула Вадзіма Круталевіча «Янка Купала і нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне».

Амаль два гады назад у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік вершаў і паэм «Туга па Радзіме», у які ўвайшлі творы паэтаў, што жывуць у эміграцыі. Пра гэта выданне сваімі думкамі дзеліцца Уладзімір Гніламёдаў у артыкуле «Слова, аплачанае лёсам». Тут жа змешчаны рэдкія здымкі Рыгора Крушыны і Уладзіміра Клішэвіча.

Янка Жамойцін прапануе працяг размовы з Верай Катковіч «З перажытага». З літаратурных твораў змешчаны пятнаццатая быліца Міхася Кавыля «Із агню ды ў полымя» і ўрывак з аповесці «Воўка ты знойдзеш на сваю шыю» Валеры Санько.

З развітальным словам да Алеся Адамовіча ў «Полацаку» ад імя беларусаў замежжа выступае Святлана Менская.

Часопіс багата ілюстраваны здымкамі і малюнкамі на тэму жыцця беларускай эміграцыі.

В. А.



# Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. ПАДЫМАЦЦА і ПАДНІМАЦЦА (ісці ўверх, рухацца, перамяшчацца ў напрамку да верху) *Толік паволі падымаўся па прыступках ганка* (Даніленка). *Пасажыры асцярожна паднімаюцца па трапу* (Каршукоў), УЗНІМАЦЦА *Узнімаюся на сёмы паверх, і ў грудзях замірае ад захаплення* (Васілевіч), УЗДЫМАЦЦА *Не трэба ўздымацца высока,— хачу разглядзець усё чыста На пакінутай намі зямлі* (Чарот), УЗЫХОДЗІЦЬ *Перад імі ўзыходзіў на другі паверх чалавек* (Чорны).— Зак.: **Падня́цца, узня́цца, узысці.**

2. ПАДЫМАЦЦА і ПАДНІМАЦЦА (пра дым, туман і пад.: распаўсюджвацца над чым-н.) *Было ўжо чуваць, як трашчыць трава, калі падымалася полымя* (Пташнікаў). *Ад вады паднімалася белая пара і плыла па заліву* (Шамякін), УЗНІМАЦЦА *Як хапала вока, усюды... узнімаліся слупы дыму* (Даніленка), УЗДЫМАЦЦА *Роўныя слупы дыму ўздымаліся ў неба* (Шчарбатаў), УСТАВАЦЬ *З-за лесу ўставала чорная хмара* (Капыловіч).— Закончанае трыванне: **Падня́цца, узня́цца, уста́ць.**

1. ПАДЫМАЦЬ і ПАДНІМАЦЬ (нахіляючыся, браць з зямлі, падлогі звычайна тое, што ўпала, звалілася). *Падбег Віктар і ўбачыў, што той падымае з зямлі недакурак* (Маўр). *Паднімаць яблык з долу*, ПАДБІРАЦЬ *Зося, стараючыся супакоіцца, хутчэй нагнулася і пачала падбіраць лён* (Крапіва).— Зак.: **Падня́ць, падабра́ць.**

2. ПАДЫМАЦЬ і ПАДНІМАЦЬ (перамяшчаць у больш высокае становішча, уверх) *І ён да хвоек падбягае, Сняжок з іх ціха атрасае — і хвойкі зразу ажываюць, Угару макушы падымаюць* (Колас). *Не глядзіце, што ён такі маладжавы. Ён двухжыльны. Падковы гне. Любога каня падніме на выцяжку* (Брыль), УЗНІМАЦЬ *Спрадвечныя дубы лёгка ўзнімаюць угару... цяжкія кроны* (Паслядовіч), УЗДЫМАЦЬ *Дуб вяршыню да хмары ўздымае* (Прыходзька).— Зак.: **Падня́ць, узня́ць.**

3. ПАДЫМАЦЬ і ПАДНІМАЦЬ (галаву, вушы, хвост і г. д.: з нахіленага, апушчанага і пад. становішча пераводзіць у прыўзнятае, накіраванае ўгару) *Пацягнуўшы носам паветра, Пракоп падымае галаву* (Колас). *Сабака падняў вушы*, УЗНІМАЦЬ *Ганька ўзнімае галаву і здзіўлена глядзіць на Таню* (Васілевіч), УЗДЫМАЦЬ *А званы гудзелі, вылі, слугі Божыя ўздымалі галовы* (Пестрак), ПРЫПАДЫМАЦЬ і ПРЫПАДНІМАЦЬ (падымаць трохі) *Прыслухоўваючыся да дзіцячага гоману, вялізны дзік раз-по-разу прыпадымаў галаву, плюшчыў вочы ад сонца і дабрадушна малаціў хвастом* (Брыль), ПРЫЎЗНІМАЦЬ і ПРЫЎЗДЫМАЦЬ *Часам падаваў голас кулямёт, вартавы страляў па тым, хто неасцярожна прыўзнімаў галаву* (Даніленка), ЗАДЗІРАЦЬ разм. (падымаць надта ўгору) *Час ад часу [бусел] задзіраў угору доўгую дзюбу і клекатаў* (Краўчанка).— Зак.: **Падня́ць, узня́ць, прыпадня́ць, прыўзня́ць, задра́ць і задзе́рці.**

4. ПАДЫМАЦЬ і ПАДНІМАЦЬ (вочы, позірк і пад.: накіроўваць угару, на каго-, што-н., хто (што) знаходзіцца вышэй) *Карп Маеўскі доўга і вельмі пільна ўглядаўся ў твар дачкі, але яна не падымала вачэй* (Шамякін). *Паднімаць вочы ў неба*, УЗНІМАЦЬ *Узнімаю вочы ўгору, а там, на палатках, дзеці* (Дубоўка), УЗДЫМАЦЬ *І стары ўздымае выцвіўшыя вочы: — Ну, скажы, ці доўга гэта будзе так?* (Танк), УЗВОДЗІЦЬ *І дзед, схапіўшыся ў закутак, Узводзіць вочы на ўсход* (Колас).— Зак.: **Падня́ць, узня́ць, узве́сці.**

1. ПАДЫСЦІ (быць адпаведным, прыдатным у якім-н. дачыненні, па якіх-н. прыметах) *Кажуха ў мяне не было. Але мне добра падышла матчына куртка на ваце* (Якімовіч), ПРЫЙСЦІСЯ *«Калі ж небудзь Тамаш будзе такі, што яму якраз прыйдзецца гэтая вопратка»* (Чорны). — Незак.: **Падыхо́дзіць, прыхо́дзіцца.**

2. ПАДЫСЦІ (пра цеста: павялічыцца ў аб'ёме, успучыцца, стаўшы больш рыхлым) *[Цеста] падышло, паднялося над дзежамі і нагадвала вялізныя шапкі грыбоў* (Васілеўская), ПАДНЯЦЦА *На правым баку календара заставаліся лічаныя лісточкі, а левы бок яго разбух, падняўся, як цеста на добрых дражджах* (Арабей), ВЫРАСЦІ *Цеста вырасла.*— Незак.: **Падыхо́дзіць, падыма́цца, падні́мацца, расці.**

ПАЕСЦІ (крыху з'есці чаго-н., спехам наталіць чым-н. голад) *Валодзя крышачку паеў і сказаў маці, што вельмі хоча спаць* (Федасеенка), ПЕРАКУСІЦЬ разм. *Хадакі прыселі на лаўцы каля плота,асталі з торбы хлеб і па скрыліку сала, каб перакусіць з дарогі* (Пальчэўскі), ЗАКУСІЦЬ разм. [*Дубіна:*] — *Ну, то давай закусім чаго* (Колас), ПАДЗАКУСІЦЬ разм. *Прыехаў я позна ўвечары. Троху падзакусіў хлеба з салам, што прывёз з вёскі, і зараз лёг спаць* (Гарэцкі), ПЕРАХАПІЦЬ разм.— *Дзякую, не хачу. Я там у буфеце перахапіў сёе-тое,— адмовіўся я, бо пасля таго, што чулі мае вушы, найрад ці палезла б мне ў рот цешчына перакуска* (Сабаленка), ПЕРАХВАЦІЦЬ разм. — *Ты еш, дружа, еш, на мяне не звяртай увагі,— заківаў ён галавой Івану.— Я, прызнацца, яшчэ да цябе тут сёе-тое перахваціў* (Аношкін), ПАЖАВАЦЬ разм. *Неўзабаве па свежых заечых слядах завіталі на лясную дарогу лісіцы. Не духмянага сена, вядома, пажаваць, а ў надзеі зайчынай пажывіцца* (Ігнаценка), ЗАМАРЫЦЬ ЧАРВЯКА (ЧАРВЯЧКА) разм. *Ды колькі ні ідзі, а трэба прыпыніцца, Каб чарвяка, як кажуць, замарыць* (Валасевіч).— Параўнайце. Есці, Падмацавацца.

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах

*(Заканчэнне).*

5. Калі пабочныя словы і словазлучэнні ўваходзяць у склад адасобленых зваротаў і размешчаны ў пачатку або ў канцы іх, то паміж гэтымі словамі або словазлучэннямі і адасобленымі зваротамі коска не ставіцца: *Механік Шавель, завёўшы матор камбайна, схіліў набок галаву, відаць прыслухоўваючыся да яго работы* (М. Паслядовіч). *Стары конюх, падвыпіўшы бывала, пускаўся ў скокі* (Змітрок Бядуля).

Калі ж пабочныя словы і словазлучэнні знаходзяцца ў сярэдзіне адасобленых зваротаў, тады яны выдзяляюцца коскамі на аснове агульнага правіла: *Людзі слухалі ўважліва, баючыся, відаць, прапусціць хоць адно слова* (П. Пестрак). *Грышка сам хадзіў туды, пераапрануўшыся, вядома, у вопратку польскага салдата* (Міхась Чарот).

6. Калі пабочныя словы, словазлучэнні ці сказы размешчаны непасрэдна адны за другімі і аб'яднаны бяззлучнікавай сувяззю, то яны аддзяляюцца адны ад другіх (а таксама ад членаў сказа) пры дапамозе коскі: *Чаго добрага, відаць, і мне спакою не будзе* (В. Каваль). *Значыцца, па-вашаму, нічога рабіць не трэба* (Якуб Колас). *Праўда, як здалося Костусю, інакшай гаворкі не магло быць* (Кузьма Чорны).

7. У тых выпадках, калі пабочныя словы, словазлучэнні і сказы суправаджаюцца ўзмоцненай інтанацыяй і падкрэслены лагічна, яны аддзяляюцца або выдзяляюцца працяжнікамі: *Адным словам — усё ідзе як мае быць* (Міхась Зарэцкі). *Прыехаў я сюды з-за свету, з-пад самых Стоўбцаў — чулі можа?* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Пры большай паўзе і слабай сувязі са зместам асноўнай часткі сказа пабочныя сказы могуць аддзяляцца або выдзяляцца пры дапамозе коскі з працяжнікам: *Выбачайце,— сум ваш патрывожу* (В. Таўлай). *Карпюк ціха,— як здалося Платону,— хмыкнуў* (І. Шамякін).

8. Заўсёды выдзяляюцца працяжнікамі тыя пабочныя словы і сказы, якія знаходзяцца ў сярэдзіне сказа і маюць клічную або пытальную інтанацыю (з клічнікам ці пытальнікам пасля іх): *Калі маці падала на стол аладкі і нават — дзіва! — скавародку з салам, Валодзька амаль не аддаў гэтаму ўвагі, па-ранейшаму чакаў* (І. Мележ). *Пад восень — ці чулі? — сам прыехаў Пуцята* (А. Бялевіч).

9. Калі пасля пабочнага слова, якое выдзяляецца коскамі, апушчаны словы з асноўнай часткі, то пасля коскі на месцы пропуску звычайна ставіцца працяжнік, напр.: *Першае, мы галодныя, другое,— хочам спаць* (Э. Самуйлёнак). *Па-першае, сеялі мы глыбока. Па-другое,— у халодную зямлю* (І. Грамовіч).

Але калі апускаюцца словы з асноўнай часткі сказа і з пабочнага словазлучэння або толькі з пабочнага словазлучэння, то на месцы пропуску ставіцца працяжнік (коска пры ім не ставіцца), напр.: *З аднаго боку, страшна было за сваё дэлегацтва, з другога — трэба было заступіцца за Лапка* (Якуб Колас).

10. Калі пабочныя словы, словазлучэнні і сказы размешчаны паміж такімі часткамі асноўнага сказа, якія аддзяляюцца адна ад другой працяжнікам, то коска пры ім не ставіцца: *Ты мяне прычаравала, як гавораць — варажбой* (А. Куляшоў). *Аслу раз выдалі мандат — няйначай, памылкова* (Кандрат Крапіва).

11. Калі пабочныя словазлучэнні і сказы вызначаюцца аслабленай сувяззю са зместам усяго сказа і набываюць дадатковае адценне ўстаўкі, то яны выдзяляюцца з двух бакоў дужкамі: *Жанчына была (ці мо толькі здавалася) высокая ростам* (Кузьма Чорны). *Быў узгорак, так як бубен, але Ціт пасеяў лубін, дык (ці веры вы дасце?), як чарот, жытцо расце* (Кандрат Крапіва).

*Жывое слова*

## Украса

«*Ваш падарунак — лепшая ўкраса на маім стале*»,— гэтак пісаў-звяртаўся да выхаванцаў Чавускага дзіцячага дома народны паэт Беларусі Якуб Колас. У гэтым звароце мяне ўсцешыла і інтанацыя паэтавага голасу, і адно, вельмі ласкавае і простае слоўка. Якое? Вядома,— *украса!* Вы шмат разоў яго сустракалі ў друку?

Пэўна што не. Найчасцей наш друк карыстаецца словамі *упрыгожванне* ці *упрыгажэнне*. Што й казаць — груваcткія, цяжкія для маўлення словы. Ненатуральныя. Праз іх гэтак і прагладваецца калька: украшение. Між іншым, словам *украса* прадстаўніча засведчана тлумачальным слоўнікам беларускай мовы. Вельмі прыгожыя і прыклады. *Кожны раз хата-пяцісценка... сустракае мяне абновамі і ўкрасамі* (Б. Стральцоў). *А дуб — лясоў украса, на ім калышуцца вякі* (А. Бажко). *Не мог фельчар мірыцца з тым, што такая ўкраса ўжо болей не вернецца* (Змітрок Бядуля). І зноў Якуб Колас: «*На ўзвышку... стаяў мураваны белы палац, высока ўзняўшы над садам сваю чатырохкантовую вежу, аздобленую рознымі скульптурнымі ўкрасамі*».

Азначана гэтае слова так: УКРАСА. 1. Прадмет, прызначаны для ўпрыгожвання каго-небудзь ці чаго-небудзь. Бачыце, простае натуральнае слова растлумачана груваcткім. А можна было б патлумачыць: УКРАСА — рэч, прызначаная для аздобы каго- ці чаго-небудзь.

То што ж нам замінае больш шырока карыстацца гэтым натуральным, зграбным словам замест упрыгажэнне, упрыгожванне, упрыгожванні?!

Адпаведнікам слову *украса* можа быць *прыкраса, прыкрасы*. Вось, прыкладам, як згаданае слова гучыць у моўным кантэксце Ядвігіна Ш.: «*Пасудзіна, мэбля дайнейшай работы: мо старасвецкія нацыянальныя вопраткі, тканіны, прыкрасы якія-колечы і мо прылады гаспадарскія і г. д.*» («*Хто чым можа — хай дапаможа!*»).

Між іншым, слова *украса* пададзена ў перакладным «Русско-белорусском словаре» ў адпаведным моўным артыкуле з паметкай *пераносны* і стаіць на трэцім месцы, без прыкладаў, без кантэксту, адным радком: *краса, украса*. Таму, пэўна, журналісты ды перакладчыкі — а яны найбольш карыстаюцца гэтым слоўнікам — не заўважаюць згаданае слова, не дабіраюцца да яго і не ведаюць, што з ім рабіць, бо яно пададзена без усялякага кантэксту. Ва ўсякім разе за ўсё жыццё мне ні разу не давялося напаткаць у публікацыях ці ў журналісцкіх нататках гэтае прыгожае слова — *украса*.

## Язык як перац

**Два белыя, а трэці — як снег.**
**Дачка як каралеўна.**
**Дачушка як ластавачка.**
**Двор як пані сесці.**
**Дзед як смаловы корч.**
**Дзень як часіна, век як гадзіна.**
**Дзеўка як агонь.**
**Дзеўка як вішня.**
**Дзеўка як кветка (як краска).**
**Дзеўка як півоня.**
**Дзівіцца, як воўк на казу.**
**Дзікі, як фашыст.**
**Дзьмецца, як індык.**
**Дзыгае, як бусел.**
**Дзыбаты, як жуpавель.**
**Дзялілі, як Тодар з Тадораю (лапаць з абораю).**
**Дзяўчына як лань.**
**Дзяўчына як таполя.**
**Дзяўчыначка (дзяўчынанька) як цавінка (цявінка).**
**Дзяцей, як бобу (у рэшаце).**
**Дзяцей (малых у сям'і), як гарбузікаў.**
**Дзяцей, як снапоў у пасадзе (у азяродзе).**
**Джгануў, як шэршань у скроню.**
**Добра, як з вадою.**
**Добра, як катку.**
**Добра, як на дажынках.**
**Добра, як у гасцях на Случчыне.**
**Добра, як у мамы гасцяваць (у гасцейках).**
**Добра, як у раі.**
**Добры, хоць да раны прыкладай.**
**Добры, як бабулька.**
**Дождж, як з вядра (як з цэбра).**
**Дома край (лепшы) як рай.**
**Доўгі, як алекшыцкая грэбля (недалёка ад мястэчка Свіслач).**

# Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах

**Як дзялілі Беларусь у Берасці, Маскве і Рызе?**

Адразу пасля прыходу да ўлады бальшавікі пачалі сепаратныя перамовы з немцамі аб міры. Месцам іх правядзення было абранае Берасце. Паколькі лінія фронту праходзіла па тэрыторыі Беларусі, расейска-германскія перамовы не маглі не турбаваць беларускіх патрыётаў. Гэтае пытанне абмяркоўвалася на Усебеларускім кангрэсе, што праходзіў у снежні 1917 года. Быў зроблены запыт кіраўніку расейскай дэлегацыі Л. Троцкаму, які ў адказ запэўніў, што лёс Беларусі не будзе вырашацца без згоды беларусаў. Як мы ведаем, гэта была хлусня.

Бальшавікі несумленна паводзілі сябе на перамовах, выкарыстоўвалі іх для прапаганды, падбухторвалі нямецкіх салдатаў на «рэвалюцыйныя дзеянні». Урэшце 18 лютага 1918 года немцы пачалі наступ. Бальшавікам, якія развалілі старую армію, нічога не заставалася, як шукаць замірэння. На пачатку сакавіка ў Берасці быў падпісаны мірны трактат, у выніку чаго пад немцамі апынулася большая частка нашай зямлі. Урад Леніна абавязаўся выплаціць Германіі 6 мільярдаў рублёў кантрыбуцыі, і Беларусь (акупацыйная зона) разглядалася як заклад пад гэтую кантрыбуцыю. Немцы ж паабяцалі бальшавікам, што не прызнаюць новых дзяржаў на тэрыторыі былой Расейскай імперыі. Абодва бакі «шчыра» выконвалі ўзятыя на сябе абавязкі: бальшавікі абдзіралі сялян і ў лік кантрыбуцыі вывозілі ў Нямеччыну збожжа, а ўрад Нямеччыны не прызнаваў Беларускай Народнай Рэспублікі і не даваў ёй арганізаваць сваё войска.

Другі раз нашу краіну бальшавікі падзялілі з Летувою, якая, дарэчы, сама толькі што выйшла з-пад каланіяльнай залежнасці. Гэта было 12 ліпеня 1920 года. Рыхтуючы наступленне на польскія войскі, што акупавалі Беларусь да Дзвіны і Бярэзіны, урад Леніна падпісаў у Маскве дамову, паводле якой пад юрысдыкцыю Летувіскай Рэспублікі перадаваліся паўночна-заходнія землі: значная частка сучасных Віцебскай, Менскай ды Гарадзенскай абласцей, а таксама Беласточчына і ўся Віленшчына.

Бальшавікі дайшлі да Віслы, аднак усталяваць сваю ўладу ў Польшчы не здолелі. Карыстаючы з патрыятызму польскага народа, Ю. Пілсудскі пры дапамозе Антанты арганізаваў контрнаступ і захапіў захад Беларусі. На расейска-польскія мірныя перамовы, якія праходзілі ў Рызе, у кастрычніку 1920 года ад імя Савецкай Беларусі выехаў А. Чарвякоў. Але бальшавіцкія і польскія дыпламаты за стол перагавораў яго не пусцілі. 18 сакавіка 1921 года быў падпісаны мірны дагавор, паводле якога нашы заходнія землі перадаваліся пад уладу Польшчы.

Гандаль нашымі землямі выклікаў пратэст усёй свядомай беларускай грамадскасці. Якубу Коласу належаць напісаныя тады гнеўныя радкі:

Нас падзялілі. Хто? —
Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К чорту граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

**У якіх межах былі абвешчаны Беларуская Народная Рэспубліка і БССР?**

У 3-й Устаўной грамаце Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 года, якая абвясціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай, тэрытарыяльныя межы БНР вызначаліся ў агульнай форме. «Беларуская Народная Рэспубліка,— гаворыцца ў дакуменце,— павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ, а менавіта: Магілёўшчыну, беларускія часткі Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губерняў, населеных беларусамі». Гэтыя межы былі дакладна акрэсленыя на карце Беларускай Народнай Рэспублікі, выдадзенай у 1918 годзе і прадстаўленай Надзвычайнай місіяй БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі.

У пастанове I з'езда Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі ад 30 снежня 1918 года «асноўным ядром» Беларускай рэспублікі абвяшчаліся губерні Менская, Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Гарадзенская «з часткай прылеглых да іх мясцовасцяў суседніх губерняў, населеных пераважна беларусамі». Такімі прызнаваліся частка Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні, Вілейскі павет, частка Свянцянскага і Ашмянскага паветаў Віленскай губерні, Суражскі, Імглінскі, Старадубскі і Навазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губерні. З'езд адзначыў, што са складу Смаленскай губерні «могуць быць выключаны» паветы Гжацкі, Сычоўскі, Вяземскі і Юхноўскі, а з Віцебскай губерні — часткі Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага паветаў. У пастанове гаварылася, што ў тых частках Віцебскай і Віленскай губерняў, дзе «мяжа носіць спрэчны характар з прычыны населенасці ў аднолькавай ступені некалькімі народнасцямі», пытанне аб ёй павінны былі вырашыць спецыяльныя камісіі, складзеныя ўрадамі зацікаўленых савецкіх рэспублік.

У складзе БССР пастановай з'езда прадугледжвалася стварэнне 7 раёнаў (замест губерняў) і 54 «падраёнаў»: Менскі раён — падраёны Менскі, Барысаўскі, Вілейскі, Свянцянскі, Ашмянскі, Ігуменскі, Бабруйскі і Слуцкі; Смаленскі раён — падраёны Смаленскі, Бельскі, Духаўшчынскі, Парэцкі, Дарагабужскі, Ельнінскі, Краснінскі і Рослаўскі; Віцебскі раён — падраёны Віцебскі, Вяліжскі, Невельскі, Гарадоцкі, Себежскі, Дрысенскі, Дзісенскі, Сенненскі, Лепельскі і Полацкі; Магілёўскі раён — падраёны Магілёўскі, Варшанскі, Горацкі, Амсціслаўскі, Быхаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі; Гомельскі раён — падраёны Гомельскі, Клімавіцкі, Суражскі, Імглінскі, Старадубскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі і Мазырскі; Гарадзенскі раён — падраёны Гарадзенскі, Лідскі, Аўгустоўскі, Сакольскі, Беластоцкі, Ваўкавыскі; Баранавіцкі раён — падраёны Баранавіцкі, Слонімскі, Пружанскі, Наваградскі, Берасцейскі, Кобрынскі і Пінскі.

**Міхась БІЧ.**

# САЮЗ СЛОЎ — ГЭТА ЦУДОЎНАЯ ТАЯМНІЦА

*(Заканчэнне.*

*Пачатак на 3-й стар.)*

— Можна. Зразумела, гэта не азначае, што няма ніякай розніцы паміж фразеалогіяй, ужытай у творах Коласа, і сучаснай фразеалогіяй. Адрозненняў багата. І не толькі колькасных (багата новых фразеалагізмаў), але і якасных (іншае асэнсаванне многіх фразеалагізмаў, замена іх формы). Але нават і тады, калі мы не разумеем асобных фразеалагізмаў у Коласа (*скідаць гужа* 'станавіцца незалежным', *даць казла* 'пераку́ліцца', *капшук занямонскі* 'нікчэмны чалавек', *стрэсці фуз* 'пазбавіцца непрыемнага пачуцця'), мы ўспрымаем яго мову як сучасную, як немцы ніколі не сумняваюцца ў сучаснасці мовы Гётэ і Шылера, рускія — Пушкіна, французы — Вальтэра. Гісторык польскай літаратурнай мовы Ян Парандоўскі адзначае, што польскія пісьменнікі эпохі рамантызму праклалі такі глыбокі водападзел паміж мовай да XIX ст. і мовай першай паловы гэтага ж стагоддзя, што сучасныя літаратары цяпер ужо рэдка звяртаюцца да мовы папярэдніх эпох. Спецыфіка такіх паняццяў, як сучасны і сучаснасць, у адносінах да мовы заключаецца якраз у тым, што падобныя паняцці адначасова абапіраюцца і на дадзены час («цяпер»), і на блізкі мінулы час («класікі»). Гэта значыць, што сучасную літаратурную мову трэба аддзяляць межамі ад Янкі Купалы і Якуба Коласа да нашых дзён. Як сучасная руская літаратурная мова абмяжоўваецца рамкамі ад Пушкіна да Горкага, у сербаў — ад Вука Караджыча, рэфарматара літаратурнай мовы, у французаў — ад Ф. Вальтэра і г. д.

**— Адчуваецца, што Вы вялікі энтузіяст фразеалогіі. А з чаго пачалося?**

— Вельмі празаічна пачалося. Пасля заканчэння ў 1951 годзе вучобы на фразеалагічным факультэце (аддзяленне беларускай мовы і літаратуры і рускай мовы і літаратуры) Беларускага дзяржаўнага універсітэта я быў па размеркаванню накіраваны ў рэдакцыю новаўтворанай газеты «Фізкультурнік Беларусі» на пасаду літаратурнага супрацоўніка. Праз год перайшоў на працу ў Інстытут мовазнаўства АН Беларусі на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка дзякуючы вучонаму сакратару Інстытута Міхаілу Раманавічу Судніку і дырэктару інстытута акадэміку Кандрату Кандратавічу Крапіве. На пытанне, у якой галіне мовазнаўства я хацеў бы працаваць, я адказаў: «Гісторыя мовы». У адказ Кандрат Кандратавіч даў мне рукапіс кандыдацкай дысертацыі А. М. Базыленкі «Устойлівыя словазлучэнні ў мове Якуба Коласа» (Мінск, 1951) і сказаў, што я буду працаваць у сектары слоўнікаў па тэме «Беларуска-рускі слоўнік», збіраючы матэрыял і апрацоўваючы яго фразеалагічную частку. Праз год працы я паступіў у аспірантуру Інстытута мовазнаўства, а ў 1958 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі». У далейшым я ўсё ж займаўся вывучэннем фразеалагічнага матэрыялу ў гістарычным плане, распісваючы яго са старажытных беларускіх помнікаў, дыялектных крыніц і архіўных сховішчаў. Першыя мае захады даць цэласнае апісанне развіцця беларускай фразеалогіі былі зроблены ў раздзеле «Беларуская фразеалогія» калектыўнай манаграфіі «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (Мінск, 1870). У 1978 г. пад такой жа назвай выйшла мая манаграфія, у якой разглядаюцца асноўныя аспекты беларускай фразеалогіі. Праца гэта атрымала станоўчую ацэнку. У 1984 г. абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Развіццё фразеалагічнага складу беларускай мовы». У гэты ж час займаўся арэальным і ідэграфічным аналізам беларускай фразеалогіі ў яе адносінах да фразеалогіі іншых славянскіх і неславянскіх моў, што садзейнічала несупярэчліваму супастаўленню і апісанню іх сістэм і выяўленню характэрных асаблівасцей кожнай з іх. З 1985 па 1990 год працаваў разам з Інстытутам славістыкі Польскай акадэміі навук над стварэннем «Беларуска-польскага фразеалагічнага слоўніка», які, відаць, у будучым годзе выйдзе ў свет у Варшаве. Праца гэта праводзілася ў плане навуковага супрацоўніцтва АН Беларусі і Польскай акадэміі навук на працягу 1985—1990 гадоў. У якасці члена Міжнароднай камісіі па славянскай фразеалогіі пры Міжнародным камітэце славістаў, на працягу многіх гадоў прымаў удзел амаль ва ўсіх яе пасяджэннях і сімпозіумах, на якіх абмяркоўваліся пытанні гістарычнай і дыялектнай фразеалогіі, метадаў яе параўнальна-тыпалагічнага даследавання, укладання фразеалагічных слоўнікаў розных тыпаў.

**— Здаецца, у Вас быў даклад на тэму аб беларускім вяселлі на Міжнародным з'ездзе славістаў у Браціславе?**

— Даклад на Міжнародным з'ездзе славістаў, які адбыўся ў верасні мінулага года ў Браціславе, называўся «Беларускае вяселле ў яго адносінах да заходнеславянскіх вяселляў — польскага і славацкага». І рыхтавалі яго мы разам з жонкай — Л. А. Малаш. Даклад прыцягнуў да сябе вялікую цікавасць і выклікаў ажыўленую дыскусію, якая па сутнасці звялася да поўнай згоды з дакладчыцай. У дакладзе сцвярджалася, што ў параўнанні з вяселлем іншых славянскіх народаў беларускае вяселле вызначаецца незвычайным багаццем свайго песеннага складу, які арганічна звязаны з добра захаваным абрадам, наяўнасцю мноства песень і формул заклінальнага і магічнага характару, а таксама не малой колькасці архаічных элементаў у іх. Дзякуючы гэтаму беларускі абрадавы і вербальны кампаненты ў многім садзейнічаюць рэканструкцыі старажытнага славянскага вясельнага абраду. Нечаканай была прапанова выдаўцоў навуковай літаратуры нямецкіх універсітэтаў (іх у Германіі налічваецца каля 80) выдаць там яшчэ ненадрукаваныя тры кнігі «Вяселле. Песні». Іх уразіла багацце і жывучасць беларускіх вясельных песень, наяўнасць у іх складзе архаічных элементаў, грунтоўныя каментарыі да іх у выдадзеных тамах.

**— А ў цэлым, што сабой зараз уяўляе беларуская фразеалагічная школа, куды кіруе?**

— Праблемамі фразеалогіі ў сучасны момант займаецца даволі вялікая група лінгвістаў. Так, У. І. Коваль вывучае беларускія фразеалагізмы ў этналінгвістычным асвятленні; ужыванне антычных выразаў без перакладу ў творах беларускай мастацкай літаратуры аналізуюць Н. А. Ганчарова і І. М. Шчарбакова; З. А. Рудакоўская аналізуе функцыянаванне фразеалагізмаў ва ўмовах двухмоўя; дыялектнай фразеалогіяй займаюцца А. С. Васюковіч, М. А. Даніловіч, Я. М. Камароўскі, Е. С. Мяцельская, Г. М. Малажай, М. В. Абабурка, В. І. Ючанка, М. К. Яковін — фразеалогіяй мастацкай літаратуры. Плённа працуе на ніве фразеалогіі І. Я. Лепешаў, які толькі ў мінулым годзе выдаў найбольш поўны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» у 2-х тамах і «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў».

Шкада толькі, што кожны з нас варыцца ў сваім уласным соку, не абменьваецца інфармацыяй і атрымлівае яе ў недастатковай колькасці. Каб ліквідаваць гэты недахоп у нашай працы, было вырашана яшчэ ў 1989 г. склікаць канферэнцыю «Актуальныя праблемы беларускай фразеалогіі». На мой погляд, у першую чаргу трэба было б вырашыць наступныя праблемы: Беларуская фразеалогія ў этналінгвістычным і лінгваагеаграфічным аспектах; Дыялектная фразеалогія; Гісторыка-этымалагічны аналіз беларускай фразеалогіі; Ідэаграфічнае апісанне беларускай фразеалогіі; Фразеалагічныя слоўнікі і камп'ютэрная фразеаграфія. Паступілі заяўкі і тэксты тэзісаў дакладаў ад 30 мовазнаўцаў Беларусі і Расіі. Усё ўперлася ў публікацыю тэзісаў дакладаў і іх рассылку ўдзельнікам канферэнцыі. Далі згоду на ўдзел і прыслалі тэзісы сваіх дакладаў такія вядомыя фразеолагі, як А. І. Малаткоў, В. М. Макіёнка, старшыня камісіі па славянскай фразеалогіі Й. С. Матэшыч (Мангэйм). Шкада, што канферэнцыя не адбылася.

**— І апошняе, Анатоль Сцяпанавіч, пытанне пра Вашы творчыя планы.**

— Мяне даўно цікавіць мова беларускага фальклору, заняцца якой настойліва рэкамендаваў прафесар Барыс Аляксандравіч Ларын. Выступаў я і з артыкуламі на гэтую тэму. У бліжэйшыя тры гады мне трэба будзе вырашаць праблему спецыфікі мовы фальклору як сістэмы і яе адрозненне ад літаратурнай і дыялектнай мовы. Да апошняга часу прадметам апісання мовы фальклору служылі пераважна асобныя моўныя з'явы (эпітэты, таўталагічныя паўторы, сінонімы, асобныя суфіксы і г. д.). Даследчыкі як бы зыходзілі з маўклівага прызнання таго факта, што мова фальклорнага твора — мова звычайная, у ёй выяўляюцца толькі асобныя з'явы, якія складаюць «разыначку» вусна-паэтычнай мовы. Менавіта яна і павінна прыцягнуць увагу даследчыкаў фальклору. І ўсё ж пры ўсёй дакладнасці апісання гэтых з'яў, абапіраючыся толькі на іх, немагчыма ўявіць сутнасць мовы фальклору, вызначыць кардынальныя ўласцівасці мовы фальклору як сістэмы і яе адрозненне ад іншых падсістэм нацыянальнай мовы. Праца гэта будзе выконвацца на матэрыяле беларускага вяселля.

**— Дзякуюю за гутарку.**

Распытвала
**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ**




*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

**Надзвычай філасофскай глыбінёй і выразнасцю вызначаюцца творы аднаго з самых слынных паўночнаамерыканскіх паэтаў XX стагоддзя Роберта Фроста (1874—1963).**

*Роберт* ФРОСТ

## Нешта ж было...

**Іншыя пасміхаюцца, як я стаю на каленях
Перад крыніцай і доўга гляджу
У люстраную роўнядзь вады,
Дзе бачу адно толькі ўласны адбітак,
Што на фоне нябесным нагадвае Бога
У німбе з імхоў і марудлівых аблачын.
Аднойчы, уткнуўшыся ў зруб падбародкам,
Я, здаецца, пабачыў, што там,
За адбіткам маім, нешта цьмяна бялее,
Там, на дне, штосьці тое, якое ж адразу і знікла.
І вада папікнула ваду, залішне празрыстую...
Кропля з моху ўпала, і тое,
Што бялела на дне, затрымцела,
Зніякавела і знікла...
Дык што ж там было на дне!
Ісціна! Белы каменьчык!
Нешта ж такое было...**

Пераклад Васіля ЗУЁНКА.

## Боязь завірухі

**Калі вецер уночы, ўзлаваны на нас,
Б'е па ўсходняй сцяне
І ў маленькую шыбу шпурляе снег —
Як звярыны, чуцён увесь час
Сковыт-брэх:
«Выходзь! Выходзь!»
Ды на двор больш не цягне мяне —
О, не!
Усіх у хаце лічу:
Нас дваіх і дзіця.
І агонь, што ў каміне** амаль пагас,
**Застывае ўваччу.
Двор і сцежку б** хаця
**Не адрозніш, не ўгледзіш вачыма,
І адрына далёка ўжо недзе там...
Пачынае мне сэрца сумнеў калоць:
Ці не будзе, падняўшыся ўранку, нам
Нават выйсці адсюль немагчыма!**

## Не уцякач

**Ён не ўцякач, што збег ці прагне збегчы;
Не спатыкаўся, азіраючыся, ён...
Яго ны страх не ззаду йдзе, а побач —
І леваруч, і праваруч. Таму,
Хоць просты шлях, ды паваротаў — процьма.
Ён — праследвальнік: імкнецца ўперад,
Шукаючы шукальніка, які
Далёка недзе іншага шукае
І там такога, як ён сам, знаходзіць.
Яго жыццё — пагоня за пагоняй.
У будучым — сучаснасці пачатак,
І ўсё бясконцы ёсць ланцуг памкненняў.**

*Пераклад з англійскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

**ВЕЧАРЫНЫ**

# Прысвечана матчынай мове

Нядаўна ў Палацы культуры МАЗа адбылася ўрачыстая вечарына беларускага слова, прымеркаваная да пяцігоддзя са дня заснавання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Арганізатары свята — ТБМ Заводскага раёна Менска, Савецкі райвыканкам, дырэкцыя МАЗа і сталічны грамадска-асветніцкі клуб «Спадчына».

Адразу адзначым: радуе найперш тое, што пакладзены пачатак адраджэнскім мерапрыемствам на раённым, найбольш набліжаным да звычайных грамадзян, узроўні. Што да розных рэспубліканскіх імпрэзаў, якія раней праводзіліся ТБМ ці пры ўдзеле нашага Таварыства, то яны, як правіла, прыцягвалі ўвагу толькі свайго, зараз даволі абмежаванага актыву.

Гасцей чакала цікавая і разнастайная праграма. Пасля азнаямлення з бягучай дзейнасцю Заводскай рады ТБМ выступілі ўзорныя дзіцячыя фальклорныя калектывы «Гармонікі» і «Дударыкі». Затым на сцэне сваё высокае майстэрства дэманстраваў філарманічны ансамбль «Вяселле». А моладзь, якой, заўважым, хапала, магла ўволю патанцаваць пад сучасныя рытмы дыскатэкі «Бег часу». У прасторным фае палаца экспанавалася выстава дзіцячых дэкаратыўна-прыкладных прац культурна-асветніцкага цэнтра «Адраджэнне» сталічнага мікрараёна Шабаны.

Дарэчы, вечарына супала з дзесяцігоддзем менскага клуба «Спадчына», які зараз зарэгістраваны пры ТБМ імя Ф. Скарыны. У кароткай інфармацыі старшыня клуба спадар Анатоль Белы расказаў прысутным аб гісторыі стварэння «Спадчыны», аб тым, што сябрам клуба ўжо ўдалося зрабіць, падзяліўся сваімі планамі на будучыню. Былі зачытаны таксама віншаванні, якія з нагоды юбілею клуба даслалі ў Менск нашы суродзічы з ЗША.

**М. В.**

*ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ*



***Знаёмцеся: Марыя Вадап'ян, 15 гадоў, вучаніца 10 класа Круглянскай СШ, сябра Круглянскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны. Вершы піша з 10 гадоў. І хай яшчэ не ўсё дасканала ў яе творах, але, верыцца, што з цягам часу з яе можа атрымацца добрая паэтка.***

*Марыя* ВАДАП'ЯН

## Жанчынам

Няхай віхурыцца завея,
Ды на двары ужо вясна!
І як, зіма, б ты не хацела —
Бярэ свае правы яна.
Бярэ. І будзе ручаямі
Звінець і радаваць людзей.
І мы з табой адзімавалі,
І новых час настаў надзей.
Віншуем сёння вас, жанчыны,
Са святам. Лепш яго няма.
Прад ім пяшчотным стаў мужчына,
Прад ім скарылася зіма.
Давайце ж радавацца, людзі!
І аддадзім жанчыне доўг.
Яна была, і ёсць, і будзе,
Як вечны сонца і любоў.
Яна заўжды святлом у хаце,
Як адраджэнне, як вясна...
Жанчыну шанаваць давайце —
Усяму пачатак ёсць яна!

## Дзікае паляванне

(амаль па У. Караткевічу)

Бязгучных паляўнічых
Мчаць дрыкганты,
Ляцяць яны, як вецер, па дрыгве,
Імчацца коннікі ў Ялінскі замак
Адпомсціць каб за Стаха, за сябе,
За тое, што ў шляхціца Рамана
Кроў у жылах не блакітная,
а бруд.
З бяздоння ўзнікае паляванне,
Каб здзейсніць справядлівы суд.
Даўно гэта было, але і сёння,
Калі на род людскі абрушыцца праклён
Зайграе ў цішыні рог паляўнічы,
Як папярэджанне нам з тых
Далёкіх дзён.

**ЧЫТАЛІ?**

# СЛОВУ 5000 ГАДОЎ?

Імя доктара геолага-мінералагічных навук Эрнста Аркадзьевіча Ляўкова, здаецца, яшчэ ва ўсіх нас на слыху. Яго кніга «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны» — з'ява ў беларускім друку ў апошнія гады. Як адзначаюць рэцэнзенты, яе пісаў паэт і рамантык, якому ўдалося раскрыць таямнічасць камянёў на нашай зямлі. Скажам больш — ён «прымусіў» загаварыць нямых сведак нашай гісторыі.

Але вучоны Э. Ляўкоў цікавіцца не толькі камянямі. Што ні ўбачыць, што ні ўчуе, ён потым аналізуе і робіць вывады. Так у яго атрымалася і са старажытным словам «гега».

Група вучоных, сярод якіх быў і Э. Ляўкоў, працавала ў мелавым кар'еры ля вёскі Карпоўцы, што на Гродзеншчыне. Вось што ён далей апісвае: «З аднаго з двух сталоў разам з мелавой крышанінай вывалілі прытупленыя на канцы рогі аленя, крамянёвыя канкрэцыі. Паднялі адну з іх. Экскаватаршчык, які таміўся ў чаканні самазвала, пацікавіўся: «А для чаго вам *гега?*» «Якая *гега?*» — падзівіліся мы незнаёмаму слову. «Ды крэмень, так яго ў нас усе завуць».

Вельмі цікаўны вучоны, прыехаўшы дадому ў Менск, узяў слоўнікі і іншыя кнігі і адтуль даведаўся, што «гега» — мясцовая назва ў Ваўкавыскім, Мастоўскім, Дзятлаўскім раёнах. («Крэсіва аб гегу церлі»).

Для сябе Э. А. Ляўкоў таксама адзначыў, што ў беларусаў захавалася слова «нягеглы» — гэта несамавіты, нямоцны, хілы, слабы чалавек. «На Зэльвеншчыне, дзе я нарадзіўся, неаднойчы ад старых чуў, як яны пра няўклюд гаварылі: «Вось урадзіўся нягегай!».

А далей вучоны ў сваіх пошуках выводзіць: «Шмат археолагаў схіляецца да думкі, што плямёны, якія пакрылі Еўропу крэмнездабываючымі шахтамі, маюць дачыненне да першых індаеўрапейцаў. Тады славянскія, германскія, балцкія мовы яшчэ не падзяліліся. Магчыма, пагэтаму нямецкае «hegen» — аберагаць або жамойцкае «jega» — моц паходзяць з таго ж самага кораня, што і беларускае «гега». А стаўшае інтэрнацыянальным «гегемон»?

Вучоны далей адзначае, што слова «гега» мае на беларускай зямлі каля 3,5—5 тысяч гадоў. Ад сябе адзначу, што «гегемон» з грэчаскай мовы перакладаецца як правадыр, кіраўнік. Што ж, у тыя далёкія часы гегу мог мець толькі правадыр... Бо крэмень у старажытнасці каштаваў даражэй за золата. Як паказваюць даследаванні, многа тысячагоддзяў назад на Беларусі было больш за 10 тысяч (!) крэмніевых шахтаў.

А даведаўся я пра ўсё гэта з падарунка, які зрабіў для мяне прафесар доктар геолага-мінералагічных навук Эрнст Аркадзьевіч Ляўкоў.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
**г. Баранавічы.**

*З ЛІТАРАТУРНАЙ СКРЫНКІ*

Спадару Л. Х. з г. п. Крывічы Мядзельскага раёна.

***Атрымалі Ваш трыпціх «Уладзімір Высоцкі». Дзякуем. Твор пачынаецца радкамі: «Не ашчэміць яго цішыня У Ваганькаўскі могільнік скрушны — Трэцца голаснасць, як зубраня, Аб сардэц нашых голыя крушні. Жарангулая з хрыпам туга, Так храпуць толькі коні надлома. Чуцен поцяг у ёй батага, Бы напіўся ён лёду з шалома». Радкі напісаны па-майстэрску, але вельмі ж яны прыдатны матэрыял для парадыстаў Георгія Юрчанкі, Міхася Скоблы, Янкуся Мальца... Вось яшчэ такія ж радкі: «Пад скварам нашай схільнасці зямной Жывы, як быў, як ёсць — не ўбранзавелы. Парэнчамі каўчэжнымі не Ной Адгарадзіўся, а паэт спацелы. На той каўчэг перацягаў ён гной, Каб, верай заручыўшыся, свет белы Збянтэжыўся пад звонкаю струной, Скрыжальна ўзнёс гісторыі прабелы». Але гэта не бяда. Галоўнае — Вы думаеце і пішаце вобразна. Да ўсяго, хоць паэт мае права пісаць пра ўсё, пра што яму захочацца, але, думаецца, у нас, беларусаў, ёсць больш вартыя імёны, якія можна праслаўляць паэтычным радком. Жадаем поспехаў.***

Спадару Г. У. са Смалявіч.

***Дзякуем за ўвагу да «НС» і за дасланыя творы. Радкі такога кшталту, як «1,9 мільярда даляраў штогод Трацім на расейскае войска» і «24 000 гектараў, зямлю нашу, эксплатуюць расейскія генералы» — толькі інфармацыя для роздуму, і не варта было яе рыфмаваць. А вось верш пра цвік у кішэні Шушкевіча мяркуем змясціць у бліжэйшым нумары «НС».***

***Не крыўдуйце за заўвагі. Поспехаў вам і ўсяго найлепшага ў жыцці.***

# Знаёмцеся: «Ячаўскія вячоркі»



На Случчыне іх ведаюць — і любяць — ужо даўно: з канца 70-х, калі нованароджаны фальклорны гурт з вёскі Ячава запрасіў землякоў на першую сустрэчу са сваім самабытным мастацтвам. Потым былі дзесяткі і дзесяткі іншых незабыўных сустрэч — па вёсках і фермах калгаса імя Кірава, клубах раёна і вобласці, на розных конкурсах, аглядах, фестывалях у Беларусі і за яе межамі. Пасля яркага выступлення на рэспубліканскім тэлебачанні з абрадавай праграмай «Уваходзіны» яшчэ больш пашырылася кола іх сяброў — гарачых прыхільнікаў народнай творчасці.

А мастацтва ў народнага калектыву «Ячаўскія вячоркі» сапраўды народнае: ад глыбокіх зямных каранёў, духоўнай спадчыны продкаў бярэ яно выток, таму такое жывое, адметнае і невычэрпнае. Шмат яркіх, арыгінальных праграм стварылі яны за гэты час — на радасць гледачам, на карысць адраджэння нацыянальнай культуры. І супыну ім няма, хоць касцяк гурта — жанчыны, што называецца, у гадах. Агеньчык творчасці не дае ім развітацца з маладосцю.

...Самі яны дачыніліся да гэтых скарбаў яшчэ ў маладосці. Старэйшына гурта і яго незаменная запявала Серафіма Ільінічна Светаш прыгадвае: «У маладую пару, вярнуўшыся з поля, спяваць-танцаваць я магла безупынку. Ды і цяпер, як зайграе гармонік, не ўтрываю на месцы».

І праўда: артыстычная, з гарэзлівым бляскам у вачах і сонечнай усмешкай, яна толькі паводле плячыма — дзе тыя гады дзяюцца? А голас — малады, звонкі, як калісьці, і манера выканання — тая ж, даўняя, зберажоная ў першаснай чысціні і свежасці. У свае песні спявачка ўкладае глыбокае пачуццё, боль і радасць, горыч і надзею пражытага і перажытага.

— Да пайду я кругом луга,— пачынае яна шырока і вольна, бы на яве стаіць сярод авеянага ветрам прастору. Сяброўкі дружна падхопліваюць, паўтараючы за ёю:

*Да пайду я кругом луга,*
*Пашукаю свайго друга.*
*Няма ў лузе нікагенька,*
*Толькі ў садзе салавейка...*

У адну срэбразвонную плынь зліваюцца галасы таленавітых пяюх — заснавальніц і ветэранаў гурта Марыі Ануфрыеўны Пупкевіч, Валянціны Кузьмінічны Варывончык, Зінаіды Пятроўны Чухонскай, Марыі Іванаўны Пілецкай. Побач з імі, плячо ў плячо і голас у голас, маладзейшыя прадаўжальнікі, улюбёныя ў фальклор сёстры Рая Калядка і Света Казлоўская, незаменны музыка-віртуоз і майстар добрага настрою Андрэй Клязовіч, іх сябры Уладзімір Сушко і Марына Бандарэнка, Лена Камоцкая і Таня Бяляева, выкладчыкі музычнай школы Ірына Цыганок і Уладзімір Ліпоўскі. А цяпер разам з дарослымі пачала выступаць і маленькая артыстка Ірачка, унучка Марыі Ануфрыеўны Пупкевіч: агонь запальваецца ад агню.

Прызнаная ж усімі душа калектыву, яго стваральніца і нязменны мастацкі кіраўнік — дырэктар казлоўіцкага Палаца культуры Людміла Кузьмінічна Калядка.

...Усё пачалося з таго, што аднойчы Людміла Кузьмінічна наведалася ў брыгадную вёску Ячава, дзе, чула, ледзь не ў кожнай хаце «яшчэ тыя» самародкі. Васемнаццаць хат абышла, і васемнаццаць спявачак без доўгіх угавораў, з радасцю пагадзіліся ўвайсці ў фальклорны гурт. Адразу ж пачаліся рэпетыцыі, пошук адмысловага рэпертуару. А ў хуткім часе ячаўскія артысты запрасілі жыхароў наваколля разам згадаць, як калісьці ў іх мясцінах ладзіліся зімовыя вячоркі. Аздобілі сцэну саматканымі ручнікамі і посцілкамі, паставілі знятыя з гарышча прасніцы. Заняліся, як спрадвеку такой парой, розным рукадзеллем, перасыпаючы памятныя змалку песні дасціпнымі размовамі і жартамі, вясёлымі гульнямі і танцамі.

З таго першага выступлення сталі іх запрашаць на далёкія і блізкія гастролі: у каго ж не адгукнецца душа на шчырасць і шчодрасць захавальнікаў і прапагандыстаў мастацкай спадчыны продкаў? Беражліва, годна і з любоўю нясуць яе людзям «Ячаўскія вячоркі». І не адныя вячоркамі чаруюць. Больш за паўсотні фальклорных жамчужын уключае іх рэпертуар, сярод іх асабліва любімыя і выканаўцамі, і гледачамі песні «Ой, вечар цёмны», «Вярба», танцы «Месяц» і «Лявоніха». Усё больш значнае месца ў іх творчасці займаюць цэласныя праграмы-кампазіцыі, звязаныя са святамі народнага календара і традыцыйнай абраднасцю: тут зажынкі і дажынкі, калядкі і шчодрык, Юр'е і Купалле. Тут — заручыны і вяселлі, радзіны і наваселлі-ўваходзіны. І ва ўсім — святая і чыстая народная душа, векавая мудрасць і нязгаснае хараство, што свецяць нам праз гады і саграваюць у сённяшніх трывогах.

...Трэба было бачыць, як зззялі твары лепшых працаўнікоў ферм, якім уручалі свой музычны падарунак ячаўскія спявачкі-весялухі.

— Гэта ж лепшая ўзнагарода! — узрушана дзяліліся ўражаннем даярка Вольга Міхайлаўна Чайка.— Чакаем іх заўжды як найдаражэйшых гасцей,— заўважыў брыгадзір з Дальніх Бандароў Леанід Сямёнавіч Лысы.— Усе іх песні ведаем і, як зараз, разам спяваем.

А вось думка маладога калгаснага інжынера Анатоля Насілоўскага:

— Мо дваццаць разоў іх слухаў і гатовы слухаць яшчэ хоць сто...

*Што дадаць да гэтага сведчання аб прызнанні калектыву, які з годнасцю носіць ганаровае званне народнага? Хіба яшчэ і яшчэ раз сэрцам услухацца ў гучанне дзіўнага, да шчымлівасці праніклёнага шматгалосся:*

*Да пайду я дарогаю,*
*А мой голас — дубровою.*
*Няхай мая мамка пачуе,*
*Мне вячэраці згатуе...*

Як не пажадаць няўрымслівым самародкам з Ячава новых дарог да людзей? Хай нямоўчна ляціць іх спеў над полем і дубровою, хай чуюць яго блізкія і далёкія, знаёмыя і незнаёмыя. І ідуць насустрач святлу і хараству народнага мастацтва.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

**На здымку: фальклорны ансамбль «Ячаўскія вячоркі».**

**Фота Уладзіміра КАВАЛЬЧУКА.**

# ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ

Нашы перадачы гучаць тры разы ў дзень (паводле менскага часу)

| | |
|---|---|
| 8.00—8.25 | кароткія хвалі 41м /7285 кГц/ і 49м /6035 кГц/ сярэднія хвалі 200 м /1503 кГц/ |
| 18.00—18.25 | кароткія хвалі 41 м /7145 кГц/ і 49 м /6095 м/ |
| 21.00—21.25 | кароткія хвалі 41 м /7285 м/ і 49 м /6035 кГц/ сярэднія хвалі 200 м (1503 кГц) |

У нас штодзённа можна паслухаць
— палітычныя ды гаспадарчыя навіны з Польшчы
— агляды польскага друку
— каментары
— гутаркі з палітыкамі, прадпрымальнікамі, артыстамі
Акрамя гэтага штотыднёвыя перадачы:

| | |
|---|---|
| серада | 21.15 — агляд тыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва» |
| | 21.20 — эканамічная перадача |
| чацвер | 18.15 — польская класічная музыка |
| пятніца | 21.10 — праграма «Люстэрка» аб жыцці беларусаў Польшчы |
| | 21.15 — навукова-тэхнічная праграма |
| субота | 18.15 — гутарка «Ад Біблії да беларускай літаратуры» |
| | 21.10 — «З тыдня ў тыдзень» |
| нядзеля | 18.10 — агляд міжнародных падзей |
| | 21.15 — гутаркі «Беларускі літаратурны рух у Польшчы» |

Слухаць радыё — гэта прывычка. Слухаць беларускамоўныя перадачы з Варшавы — гэта выбар!
Зычым добрага прыёму!
Наш адрас: 00-950 WARSZAWA
AL. Niepodleglosci 77/85 P.O. Box 46.

# Увага!

Аўдыёвізуальная камісія ТБМ імя Ф. Скарыны звяртаецца да ўсіх рэгіянальных арганізацый ТБМ у бліжэйшы час паведаміць, як у вашай мясцовасці выконваецца Закон аб мовах .

1. На якой мове гучаць аб'явы:
а) на чыгуначным вакзале;
б) на аўтавакзале;
в) у грамадскім транспарце;
г) у электрацягніках;
д) падчас спартыўных спаборніцтваў і культурна-масавых свят.

2. На якой мове афармлены шыльды, пішуцца аб'явы:
а) на дзяржаўных установах;
б) на транспарце;
в) на камерцыйных шапіках (кіёсках), фірмах, банках;
г) ва ўстановах культуры і на спартыўных аб'ектах;
д) рэкламныя.

3. Якая мова выкарыстана на цэнніках у крамах, у маркіроўцы тавараў?

Г. ВІНЯРСКІ.
Старшыня аўдыёвізуальнай камісіі.

**НАМ ПІШУЦЬ**

# У красавіку «Наша слова» атрымала лісты ад няштатных карэспандэнтаў

| | | | |
|---|---|---|---|
| Р. А. Агееў | г. Магілёў | Юрась Півуноў | г. Магілёў |
| Ларыса Водзіч | г. Менск | В. Савіч | г. Пінск |
| Пятро Капчык | г. Ізяслаў | Мікалай Адамовіч | г. Менск |
| Антон Бубала | г. Верхнядзвінск | Раман Карданскі | Канада |
| Віктар Купа | г. Менск | В. Несцяровіч | г. Віцебск |
| Леанард Хіхіч | г. п. Крывічы | А. Крэмень | Гродзенская вобл. |
| Міхась Варанец | г. Слонім | | |
| Яўген Ламановіч | г. Менск | Васіль Супрун | г. Слонім |
| Міхась Маліноўскі | г. Баранавічы | Юрась Гіль | г. Вільня |
| Павел Дубок | Гродзенская вобл. | Т. Ляхновіч | г. Рэчыца |
| Мікалай Абабурка | г. Магілёў | С. Васіленка | г. Менск |

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Заказ 75.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7730 паасобнікаў
Падпісана ў друк 23.05.1994 г.
у 15 гадзін.